ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№6 (135) чэрвень 2022 год
CATHOLICNEWS.BY

## Сердце пылающее: четыре причины, чтобы любить Святейшее Сердце Иисуса

Стар. 8





Пра святога апостала Якуба і шлях Каміна чытайце на Стар. 7



Праграму Будслаўскага фэсту чытайце на Стар. 16

## Органный фестиваль Ars Magna Organi пройдет в 12 местах Беларуси

Стар. 11







## Распачынаецца ўступная кампанія ў духоўныя семінарыі



Стар. 10

Стар. 14



## Што Касцёл кажа пра гамеапатыю?

# Папа Францішак чакае зручнага моманту для візіту ва Украіну

**“Я хацеў бы паехаць ва Украіну, але мушу дачакацца зручнага моманту”, – прызнаўся Патыфік 4 чэрвеня, адказваючы на пытанне ўкраінскага дзіцяці падчас мерапрыемства ў межах Дзіцячага панадворка.**

Папа Францішак прыняў групу каля 160 дзяцей – выхаванцаў Цэнтра для слабавідушчых Sant'Alessio – Margherita di Savoia. Да іх далучыліся дзеці-ўцекачы з Украіны, якія знайшлі прытулак у рымскай грэка-каталіцкай парафіі святой Сафіі. Сустрэча праходзіла ва ўнутраным дворыку Апостальскага палаца. Святы Айцец паведаміў, што неўзабаве правядзе размовы з украінскімі ўладамі на тэму магчымасці візіту.

Дзіцячы панадворак вярнуўся ў Ватыкан пасля двухгадовага перапынку. У яго межах Святы Айцец прымае дзяцей, што знаходзяцца ў асабліва цяжкай сацыяльнай сітуацыі. Ініцыятыва – гэта не проста аднаразовае мерапрыемства, а педагагічнае і асветніцкае падарожжа, якое працягваецца ўвесь год. Яна з’яўляецца часткай больш шырокага праекта “Панадворак язычнікаў” – цыклу сустрэч, накіраваных на дыялог паміж вернікамі і нявернікамі, а таксама на садзейнічанне інтэграцыі, сацыяльнай інклюзіі і на барацьбу з дыскрымінацыяй і перадузятасцю. Каардынацыяй займаецца Папская рада па культуры.


Украінскія дзеці з Папам падчас Дзіцячага панадворка

Пасля сустрэчы ў сваім Твітары Папа Францішак напісаў: “Давайце разам памолімся за дзяцей-сірот і дзяцей, якія вымушаныя ўцякаць ад вайны, якія пакутуюць ад голаду, адсутнасці клопату, злоўжыванняў і гвалту ва ўсім свеце. Памолімся за тых, каму адмоўлена ў праве на нараджэнне. Абаронім дзяцей!”

*Кс. Аляксандр Амяльчэня*

# Тэракт у Нігерыі

**Папа Францішак запэўніў у тэлеграме за подпісам кардынала Дзяржсакратара П’етра Параліна ў сваёй духоўнай блізкасці да нігерыйскай дыяцэзіі Онда і малітве пра навяртанне сэрцаў тых, хто здзейсніў тэракт у каталіцкім храме.**

Папа “глыбока засмучаны гэтым страшным нападам”, – гаворыцца ў тэксце на імя біскупа Джуда Аёдэджы Арагундадэ, пастыра дыяцэзіі, да якой належыць Ова. Тут знаходзіцца касцёл святога Францішка Ксаверыя – месца тэракту, у якім 5 чэрвеня загінулі не менш за 23 чалавекі, у тым ліку двое дзяцей. Некалькі дзясяткаў вернікаў атрымала раненні.

Папа Францішак пацвярджае сваю “духоўную блізкасць да ўсіх, каго закрануў гэты акт невымоўнага гвалту”, і “давярае душы памерлых Божай міласэрнасці”, просячы “выздараўлення і Божага суцяшэння для параненых і тых, хто знаходзіцца ў жалобе”. Папа таксама запэўнівае ў малітве “пра навяртанне асляпленых нянавісцю і гвалтам, каб яны абралі шлях міру і праведнасці”. Тэлеграма, адрасаваная біскупу Онда, завяршаецца “Божым бласлаўленнем суцяшэння і сілы” і заахвочваннем да вернікаў працягваць жыць евангельскім пасланнем “з вернасцю і адвагай”.

Паўднёва-заходні штат Нігерыі, дзе адбыўся крывавы напад, дагэтуль быў адным з самых мірных раёнаў у краіне, спустошаных шматлікімі тэрактамі, асноўная адказнасць за якія ляжыць на джыхадзістах так званай Ісламскай дзяржавы правінцыі Заходняй Афрыкі (ISWAP), Бока Харам і пастухах Фулані.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня*


Касцёл святога Франіцшка ў Ова пасля нападу

*Старонка падрыхтавана па матэрыялах беларускай і рускай рэдакцый Vatican News*



# “Украінскае збожжа не павінна стаць зброяй вайны!”

**Падчас агульнай аўдыенцыі, якая 1 чэрвеня прайшла ў Ватыкане, Папа Францішак звярнуў увагу на сітуацыю з экспартам збожжа з Украіны, блакаванне якога пагражае голадам у многіх краінах свету.**

“Выклікае вялікую трывогу блакада экспарту збожжа з Украіны, ад якога залежыць жыццё мільёнаў людзей, асабліва ў самых бедных краінах. Звяртаюся з моцным заклікам зрабіць усё магчымае для таго, каб вырашыць гэту праблему і гарантаваць агульначалавечае права на харчаванне. Калі ласка, не выкарыстоўвайце збожжа – асноўны харчовы прадукт – у якасці зброі вайны!”, – заклікаў Святы Айцец.

Старшыня Сусветнай харчовай праграмы Арганізацыі Аб’яднаных Нацый Дэвід Біслі заявіў, што “не дазволіць неадкладна адкрыць порты Украіны – значыць абвясціць вайну сусветнай харчовай бяспецы”. Па яго словах, блакада экспарту збожжавых стварае пагрозу голаду для больш чым 400 мільёнаў людзей ва ўсім свеце.

*Аляксандр Панчанка*

# Отмена смертной казни в Казахстане и Община св. Эгидия



**“Никто не вправе произвольно лишать жизни человека. Смертная казнь запрещается”, – так звучит статья 15 (параграф 2) новой Конституции Республики Казахстан, одобренной на общенациональном референдуме 5 июня. Таким образом, смертная казнь отменена в стране на самом высоком – конституционном – уровне.**

Запрет смертной казни в Казахстане с радостью восприняли в католической Общине святого Эгидия, которая на протяжении 20 лет сопровождала казахстанское правительство на пути к устранению параграфа о высшей мере наказания. Община поздравила Президента Республики Казахстан Касым-Жомарта Токаева с этим важным и радикальным утверждением права на жизнь.

Историческое решение было принято также благодаря многолетним усилиям Тамары Чикуновой, основавшей ассоциацию “Матери против смертной казни и пыток”. Первый шаг в этом длительном и сложном процессе был сделан 18 декабря 2003 года, когда подзащитный Тамары Чикуновой избежал высшей меры наказания благодаря первому мораторию. А 17 лет спустя, 24 сентября 2020 года, Казахстан присоединился к Протоколу к Международному пакту о гражданских и политических правах, и два месяца спустя парламент ратифицировал отмену смертной казни.

В этом процессе немаловажную роль сыграла “неформальная” дипломатия: в 2007 году президент Токаев, который в то время был председателем Сената, принимал участие в молитве о мире, организованной Общиной св. Эгидия в Неаполе. Это общение продолжалось на последующих ежегодных встречах министров юстиции африканских и азиатских стран, проходивших также по инициативе Общины святого Эгидия.

*Ольга Сакун*

# Сэрца Езуса шчодрае для ўсіх

**Чэрвень у Каталіцкім Касцёле паводле традыцыі прысвечаны Найсвяцейшаму Сэрцу Езуса: кожны дзень у парафіях праводзіцца адпаведнае набажэнства, а ў трэцюю пятніцу пасля Спаслання Духа Святога мы адзначаем урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана.**

■ **а. Віктар Жук**, *езуіт з Віцебска*

Хрыстус пажадаў, каб гэта свята адзначалася ў літургіі Касцёла, абвяшчаючы Сваю волю ў аб'яўленнях св. Маргарыце Марыі Алякок напрыканцы XVII ст. Таксама праз яе, манахіню закону Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі, якой у дапамогу Божым Провідам быў пасланы духаўнік-езуіт Клод-дэ-ла-Каламб'ер (пазней таксама кананізаваны), Езус перадаў жаданне, каб вернікі асаблівым чынам ушаноўвалі Яго Сэрца ў першыя пятніцы месяца.

Набажэнства да Найсвяцейшага Сэрца вяртае нас кожны раз да таямніцы Божай любові, якая аб'явілася ва ўцелаўленні, муках і ўваскрасенні Адзінароднага Божага Сына. Сэрца Езуса – "палымнеючае вогнішча міласці" для нас, якія лёгка губляемся без Ягонага святла і цеплыні. У Сэрцы Езуса – адначасова Божым і чалавечым – для нас схаваны "ўсе скарбы мудрасці і ўмеласці", яно – "справядлівасці і любові скарбніца", "усіх цнотаў глыбіня бяздонная"... У біблійным разуменні сэрца – гэта цэнтр асобы, з акцэнтам на тое, што яно – месца, дзе адбываецца выбар, дзе прымаюцца рашэнні. Тое, што адбываецца ў сэрцы, акрэслівае кірунак, у якім рухаецца асоба. Відавочна, што такое разуменне вельмі адрозніваецца ад паверхоўнага сентыментальнага ўяўлення, уласцівага сучаснай поп-культуры, дзе сэрца – у першую чаргу інструмент прыемнай закаханасці, якая можа хутка мінаць.

Чалавечае сэрца з усёй ягонай глыбінёй з'яўляецца таямніцай нават для самога чалавека, і па сутнасці мы толькі ў пэўнай ступені можам "кіраваць" сваім сэрцам. Хрыстус у палеміцы з фарысеямі сцвярджае вельмі рэалістычна, што "з сэрца выходзяць ліхія думкі, забойствы, чужалоства, распуста, крадзеж, фальшывыя сведчанні, блюзнерствы" (Мц 15, 19) – усё тое, што робіць "нячыстым" чалавека і што нам не вельмі хочацца бачыць у саміх сабе. Усведамляючы, наколькі "сэрца чалавека здрадлівае больш за ўсё астатняе і не даецца вылечыць" (пар. Ер 17, 9), мы молімся ў Літаніі: "Езу, ціхі і пакорны сэрцам, учыні сэрцы нашыя да Твайго падобнымі". Такім чынам мы вызнаём Езуса Валадаром нашых сэрцаў і прызнаёмся, што толькі з дапамогай Ягонай ласкі нашыя сэрцы могуць быць перамененыя і здольныя любіць. Мець сэрца, падобнае да Сэрца Езуса, – значыць наследаваць Яго ў самай глыбіні нашай істоты. "Няхай вашыя думкі будуць такімі, як у Хрысце Езусе", – заахвочвае св. Павел-апостал (Флп 2, 5).

### Выхоўваць свае жаданні

Св. Ігнацый Лаёла так фармулюе ў "Духоўных практыкаваннях" просьбу да Бога аб наследаванні Хрыста: "Прасі аб тым, чаго прагнеш: аб глыбокім пазнанні Пана, Які ўцелавіўся дзеля мяне, каб больш палюбіць Яго і больш дасканала ісці за Ім" (ДП 104). Св. Ігнацый прапануе пэўную "педагогіку жадання": ён "падказвае", чаго варта прагнуць, пра што прасіць, да якога духоўнага дару імкнуцца. Жаданні – штосьці вельмі важнае для нас: у іх заключана энергія, якая становіцца матывацыяй да дзеянняў, да канкрэтных рашэнняў і выбараў. У нашым сэрцы, у глыбіні чалавечай асобы дзейнічаюць самыя розныя прагненні, некаторыя з іх падштурхоўваюць нас ісці зусім не той дарогай, якая вядзе да нашай сапраўднай мэты. Таму нам варта ўважліва даследаваць тыя жаданні, што нараджаюцца ў нашым сэрцы, разам з псальмістам просячы: "Даследуй мяне, Божа, і спазнай маё сэрца; выпрабуй мяне і спазнай мае намеры. Глядзі, ці бяспечны мой шлях, і вядзі мяне шляхам адвечным" (Пс 139 (138), 23-24). Гэта пастава радыкальнай шчырасці перад Богам: прызнавацца і ў тым, за што нам сорамна, што нам непрыемна заўважаць у сабе – напрыклад, нечаканыя сексуальныя жаданні, ці імкненне адпомсціць камусьці. Няма сэнсу хаваць ад Бога тое, што Ён і так ведае! І пры гэтым не асуджае нас, а толькі хоча ачысціць нашыя жаданні і памкненні, вызваліць ад шкодных "прымесяў". Менавіта так паступае з намі Пан, як адказаў на просьбу вучняў – братоў Яна і Якуба, которыя прасілі ў Яго "сесці аднаму праваруч, а другому леваруч ад Цябе ў Славе Тваёй" (Мк 10, 37). Езус не адпрэчвае гэтага жадання, а выпрабоўвае яго: ці гатовыя яны піць келіх, які Ён будзе піць? Пан здольны накіраваць іхнія амбіцыі ў правільнае рэчышча, паказвае, як ачысціць іхняе памкненне ад засяроджанасці на сабе і замест гэтага глядзець на прыклад іх Настаўніка. Падобным чынам Хрыстус, наш Настаўнік, паводзіць сябе з намі, умеючы бачыць у нашых жаданнях добрую крыніцу: у сэксуальным прагненні – імкненне да сапраўднай блізкасці; у імпэце помсты – імкненне да справядлівасці і абароны годнасці; у амбіцыях – жаданне праявіць таленты, прыўнесці ў гэты свет штосьці прыгожае...

Нам, вучням Хрыстовым, варта даверыцца Нябеснаму Настаўніку, Які гатовы шчодра дзяліцца з намі "скарбамі мудрасці і ўмеласці", варта імкнуцца ўсё глыбей пазнаваць Яго – Слова Божае, з каторым Найсвяцейшае Сэрца "істотна з'яднанае", каб усё больш любіць Яго. І тады ўсіх і ўсё астатняе мы зможам правільна любіць.

"Пане, Ты нас стварыў для Сябе, і неспакойнае сэрца нашае, пакуль не знойдзе спакой у Табе", – казаў св. Аўгусцін. Мы створаныя такім чынам, што нашыя сэрцы імкнуцца да "бязмежнай велічы" – да самога Бога, і нішто іншае не здольнае задаволіць гэтага жадання. У Літаніі ёсць прыгожы паэтычны заклік: "Сэрца Езуса, прага адвечных вышыняў, змілуйся над намі!" "Адвечныя вышыні" і ўсё стварэнне імкнецца да Найсвяцейшага Сэрца – "Сэрца Сусвету", як Яго называе багаслоў Ганс Урс фон Бальтазар, – нібыта да цэнтру прыцяжэння. Няхай нашыя сэрцы будуць прыцягнутыя да "крыніцы жыцця і святасці", "з паўнаты якога мы ўсе атрымалі", – і няхай яны будуць усё больш падобныя да Таго, Хто ёсць Валадаром і з'яднаннем усіх сэрцаў!



# Пакутныя рэкалекцыі за Беларусь

**24–26 чэрвеня адбудуцца пакутныя рэкалекцыі за Беларусь, на якія запрашаюцца вернікі, святары і манаскія асобы.**



У гэты неспакойны для ўсяго свету час Маці Божая з Фацімы заклікае чыніць пакуту, кампенсацыю і ўзнагароджванне Бога за грахі свае, нашага народа і ўсяго свету. Багародзіца папрасіла дзяцей перадаць чалавецтву Яе вялікую заклапочанасць праз бязбожнасць і дэмаралізацыю людзей, дадаючы, што, калі яны не навернуцца, іх чакае вялікая кара. Свет заблукаў, адыходзячы ад Бога і маральных законаў. Марыя просіць чалавецтва пра навяртанне і пакуту, каб пазбегнуць караў, якія Бог падрыхтаваў для грэшнага чалавецтва. У візіі з трэцяй фацімскай таямніцы з'явіўся анёл, каторы трымаў у сваіх руках вогненны меч. Ён паказваў правай рукой на зямлю і тройчы прамовіў моцным голасам: пакута, пакута, пакута!

У сваім другім з'яўленні анёл не толькі заклікаў дзяцей да малітвы, але хацеў, каб "дзеці пастаянна ахвяравалі Найвышэйшаму малітвы і вырачэнні". Люцыя, адна з візіянерак, тады запытала: "Як мы павінны рабіць вырачэнні?", а анёл адказаў: "З усяго, наколькі можаце, чыніце з сябе ахвяры як кампенсацыю за грахі, якімі Бог абражаецца, і для таго, каб выпрасіць навяртанне грэшнікаў".

Парафія св. Міхала ў Навагрудку дае добрую магчымасць, каб перажыць супольныя рэкалекцыі пакуты і пакаяння не толькі за сябе, але і за грахі тых людзей, якія не давяраюць і не каюцца. У праграме рэкалекцый будуць дзве ўсяночныя адарацыі, некалькі канферэнцый, пакутная пілігрымка да Маці Божай Новага Жыцця ва Усялюб, пакутны крыжовы шлях і іншыя супольныя пакутныя набажэнствы.

**Месца правядзення:** касцёл Святога Міхала Арханёла, вул. Міцкевіча 1, г. Навагрудак.

**Тэлефон** для запісу і дадатковай інфармацыі: +37544 771-99-83 – Марына.

**Праграма:**

**Пятніца, 24 чэрвеня:**
14:00 – заезд і рассяленне;
14:30 – уступная канферэнцыя і разважанне;
15:00 – Вяночак да Божай Міласэрнасці і Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
15:20 – св. Ружанец з разважаннямі;
16:00 – святая споведзь;
18:00 – св. Імша;
19:30 – вячэра;
20:00 – канферэнцыя аб патрэбе экспіяцыі і малітвы прыніжэння;
21:00 – пакутны Крыжовы шлях;
23:30 – малітва прыніжэння і пачатак усяночнай малітвы адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту.

**Субота, 25 чэрвеня:**
08:00 – супольнае заканчэнне начной адарацыі;
08:30 – сняданак;
09:30 – канферэнцыя пра ружанец і яго моц;
11:00 – чытанне і разважанне над Божым словам (у касцёле);
12:00 – Анёл Панскі, набажэнства да Маці Божай Нястомнай Дапамогі і Гадзінкі;
12:30 – абед;
13:15 – пакутная пілігрымка ва Усялюб;
18:00 – св. Імша ў інтэнцыях вырашэння праблем у сем'ях і грамадстве;
19:30 – вячэра;
20:30 – супольная малітва ўдзячнасці і праслаўлення ў адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту;
22:00 – пакаянная працэсія вакол касцёла са свечкамі;
23:00 – начная адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту.

**Нядзеля, 26 чэрвеня:**
07:30 – заканчэнне адарацыі;
08:00 – сняданак;
08:45 – канферэнцыя пра вартасць удзячнасці Богу;
10:00 – святая Імша падзякі і заканчэнне.

**Прапануецца:**
✔падчас рэкалекцый пост на вадзе або на хлебе і вадзе;
✔скласці пакаяльную матэрыяльную ахвяру за сябе на духоўныя мэты;
✔добра падрыхтавацца да святой споведзі;
✔абавязкова мець з сабой Біблію, ружанец і зручны абутак на пакутную пілігрымку.

# Вобраз святара ў школьных падручніках па гісторыі

**Апошнім часам у СМІ заўважная дыскусія пра школьныя падручнікі. Прапануем сваю спробу ацаніць змест падручнікаў па пытаннях, якія могуць цікавіць католікаў. Для разгляду возьмем падручнікі па сусветнай гісторыі і гісторыі Беларусі для вучняў 6-7 класаў агульнаадукацыйных школ. Усе выкарыстаныя падручнікі змешчаны на сайце uchebniki.by**

■ Раіса Зянюк – *кандыдат гістарычных навук*

Для таго, каб акрэсліць, які вобраз святара малююць падручнікі, паспрабуем адказаць на некалькі пытанняў:

1) Якая інфармацыя пра духавенства ўвогуле і асобных яго прадстаўнікоў у прыватнасці змешчана ў падручніках? Якую канфесію яны прадстаўляюць / да якой канфесіі належаць? 2) Які вобраз Папы Рымскага ствараюць падручнікі? 3) Якая сфера дзейнасці акрэсліваецца ў падручніках як уласцівая святару/духавенству? 4) Якія характарыстыкі даюцца духавенству або яго асобным прадстаўнікам? 5) Ці магчыма на аснове наяўнай у падручніках інфармацыі сфарміраваць вобраз святара? І які?

Як сацыяльнай групе ў падручніках духавенству прысвечаны значны блок інфармацыі. Так, у падручніку па сусветнай гісторыі для 6 класа (§1) адзначана: "Царква – гэта згуртаванне веруючых у Хрыста са сваёй іерархіяй духавенства, абраднасцю і правіламі служэння Богу. Усе свяшчэннаслужыцелі царквы складалі асобы слой грамадства – духавенства. Вышэйшымі царкоўнымі кіраўнікамі сталі: на ўсходзе – патрыярхі Канстанцінопаля, Александрыі, Антыохіі, Іерусаліма, на захадзе – папа рымскі. Наступнымі паводле старшынства былі мітрапаліты, епіскапы. Некаторыя шчырыя вернікі адыходзілі ад паўсядзённых жыццёвых клопатаў і жылі сумесна, абшчынамі – у манастырах. Там яны маліліся, разважалі аб вечным жыцці. Іх называлі манахамі. Манахі розных манастыроў жылі паводле сваіх правіл".

Падручнікі неаднаразова падкрэсліваюць адукаванасць духавенства як сацыяльнай групы. Так, у падручніку па сусветнай гісторыі для 6 класа адзначана: "Галоўнай захавальніцай культуры заставалася хрысціянская царква. Свяшчэннікі і манахі былі самымі адукаванымі людзьмі. Без ведання лацінскай і грэчаскай мовы нельга было чытаць Біблію і праводзіць набажэнствы. Без ведання астраноміі немагчыма было вылічваць даты хрысціянскіх свят, без ведання архітэктуры – пабудаваць храм. Таму царква захоўвала і берагла антычныя веды". Якім чынам набывалася адукаванасць і як яна прымянялася, незразумела.

Разам з гэтым назіраецца татальнае ігнараванне фактаў прыналежнасці да духоўнага саслоўя выбітных (перадусім у навуцы і культуры) асобаў. Да таго ж ствараецца ўражанне, што такое ігнараванне таксама выбарачнае: часцей назіраем яго ў адносінах да каталіцкай царквы. Напрыклад, у §10 падручніка "Сусветная гісторыя" для 6 класа пра Роджэра Бэкана гаворыцца: "У XIII ст. вядомым вучоным быў прафесар Роджэр Бэкан. Ён выкладаў ва ўніверсітэтах Парыжа і Оксфарда. Ён вывучаў матэматыку, якую лічыў патрэбнай для доказу ісціны. Бэкан вучыў сваіх студэнтаў, што веды абавязкова павінны пацвярджацца вопытам. Прафесар зрабіў шмат вынаходніцтваў". Згадкі пра тое, што Р. Бэкан быў манахам-францысканцам няма. У §15 падручніка па сусветнай гісторыі для 6 класа у аповедзе пра Францэска Петрарку, яго постаць, творчасці, ідэі і дасягненні таксама няма згадкі пра тое, што гэта каталіцкі святар.




У апісанні постацей, дзейнасці і ролі Кірылы і Мяфодзія ў падручніку па сусветнай гісторыі таксама няма згадкі, што першы быў святаром, а другі – біскупам, прычым біскупскія пасвячэнні апошняга былі ініцыяваны Папам Адрыянам ІІ. Менавіта Папа Адрыян зацвердзіў здзейсненыя пераклады літургічных тэкстаў. Падкрэсліваецца іх візантыйскае паходжанне і не адзначаецца факт уплыву заходняй хрысціянскай царквы на іх дзейнасць.

У падручніку па сусветнай гістрыі для 7 кл. працягвае ігнаравацца факт прыналежнасці да духавенства шэрагу дзеячаў культуры і навукі. Напрыклад, Эразма Ратэрдамскага (§3), дамініканца Тамаза Кампанэлы (§3), дамініканца Джардана Бруна (§5), езуіта Альберта Каяловіча (Гісторыя Беларусі 7 кл.), езуіта Марціна Пачобута Адляніцкага (Гісторыя Беларусі 7 кл.). У падручніках яны выступаюць выключна як вучоныя, філосафы, асветнікі… і не маюць ніякай сувязі з касцёлам, акрамя абмежавальнай з боку апошняга. Разам з гэтым можна дапусціць, што менавіта іх прыналежнасць да духавенства дала магчымасць развівацца навуковым і мастацкім здольнасцям. Узнікае пытанне: ці наўмысна аўтары ствараюць вобраз секулярызаванай культуры і адарванасці духавенства ад навукі і творчасці?

Бадай, адзіная выразна станоўчая згадка пра прадстаўніка каталіцкага духавенства ў падручніку па сусветнай гісторыі для 7 кл. – гэта згадка пра жыццё і дзейнасць Барталамэ дэ лас Касас (у падручніку Барталамэ Лас Касас). Тут упершыню адзначана і ордэнская прыналежнасць (чалец ордэна дамініканцаў) і святарскі статус. Адзначаецца яго ўклад у барацьбу за правы карэннага насельніцтва Лацінскай Амерыкі, але не згадваецца яго ўклад у развіццё гісторыі (быў аўтарам шэрагу гістарычных прац). У гэтым жа параграфе адзначаецца і станоўчая роля манахаў-францысканцаў па стварэнні ў Кіта ўніверсітэта. Больш персаналізаваным з'яўляецца матэрыял падручніка па гісторыі Беларусі для 7 класа.

Разам з гэтым факты прыналежнасці да духоўнага саслоўя выкарыстоўваюцца ў выпадку, калі асоба ў пэўны момант пачынала рашуча супрацьстаяць каталіцкай царкве. Гэта назіраецца падчас знаёмства вучняў з постаццю Яна Гуса і гусіцкім рухам (Сусветная гісторыя, 6 кл., § 17), а таксама пры апісанні жыцця і дзейнасці Марціна Лютэра. Падручнік адзначае, што "у истоков Реформации стоял ученый монах Мартин Лютер (1483 – 1546), открыто выступивший против торговли индульгенциями. (…) Летом 1520 г. Папа Римский отлучил Лютера от церкви. В ответ мятежный монах публично сжег папскую буллу (постановление) и тем самым окончательно порвал с римской католической церковью".

У падобным ключы настойліва падкрэсліваецца, што "католическая церковь жестоко преследовала ученых. Церковники осудили учение Коперника, а его книга была запрещена. Суд инквизиции объявил Джордано Бруно еретиком, и он был сожжен на костре. Галилею также пришлось предстать перед инквизицией, которая потребовала от ученого публично отречься от своих "ошибочных" взглядов. Чтобы избежать смертной казни, Галилей вынужден был заявить перед судом, что Земля неподвижно стоит в центре Вселенной (7 кл. §5)". Адначасова такіх згадак пра нецярпімасць іншых хрысціянскіх канфесій няма, хаця, як вядома, яны таксама мелі месца.

**Характарыстыкі зместу дзейнасці і вобразу духавенства.** Перадусім з падручнікаў не зразумела, як чалавек мог трапіць у гэтую сацыяльную групу, што для гэтага трэба было рабіць. Або знаходжанне ў гэтай сацыяльнай групе вызначалася нараджэннем.

Таксама, незразумела, у чым заключаецца змест прафесійнай дзейнасці прадстаўнікоў згаданай групы. Аднак якім бы ён ні быў, станоўчай з'явай (як вынікае з падручніка) з'яўляецца змаганне з ім. Так, у падручніку па Сусветнай гісторыі для 7 класа ў §3 адзначана: "Гуманисты выступали с критикой католической церкви. В своих произведениях они часто высмеивали жадность и распущенность священников и монахов. Однако это вовсе не означало, что гуманисты не были религиозными людьми. Даже самые смелые деятели Возрождения никогда не переставали верить в Бога".

У параграфе "Рэфармацыя" (Сусветная гісторыя, 7 кл. §6) адзначана: "Духовенство проповедовало презрение к житейским благам, но его представители сами нарушали это предписание. Жажда наживы охватила многих служителей церкви. Епископы и управители монастырей, владевшие поместьями, вели праздный и вызывающе роскошный образ жизни за счет крепостных крестьян. Нередко священники занимались откровенным вымогательством при отправлении христианских обрядов (крещение ребенка, свадьба, похороны). Должность священника и даже епископа можно было приобрести за большие деньги. Значит, ее мог получить и недостойный человек. Недовольство вызывала торговля индульгенциями, так как прощение за совершённые грехи и обещанное место в раю мог приобрести за деньги любой мошенник или преступник". Не будзем удавацца ў фармальны сэнс індульгенцый (адзначым толькі, што ўласна грахі індульгенцыі не прабачаюць).

Аднак апісаныя працэсы былі ўласцівыя не толькі для каталіцкай царквы. На кантрасце са згаданым вобразам падручнік стварае больш станоўчы малюнак прадстаўнікоў духавенства іншых канфесій. Што датычыць пратэстантызму, падручнік адзначае: "Священники лютеранской церкви почти ничем не выделялись среди своих прихожан. Они могли жениться, носили обычную одежду". Тое ж адзначаецца пры згадцы пра англіканскае духавенства: "Духовенство получило право вступать в брак". Пры гэтым пра абавязковы цэлібат усяго каталіцкага духавенства і манаскага праваслаўнага, а таксама праваслаўных біскупаў, гаворка ў падручніках не вялася. Таксама не вялася гаворка пра тое, што юрыдычна цэлібат абавязваў з XI-XII ст., аднак практыка ўвядзення абавязковага цэлібату для дыяцэзіяльнага духавенства ў касцёле зацягнулася на некалькі стагоддзяў.

Праваслаўнае духавенства паўднёвых і заходніх славян характарызуецца сціплым сказам і выключна станоўча. "Тем не менее большинство южных славян сохранили родной язык, веру и традиции. Особенно положительную роль при этом сыграло православное духовенство и монастыри".

У выпадку праваслаўнай царквы вобраз святара больш персаналізаваны. У §23 у падручніку па сусветнай гісторыі за 6 клас цэлы раздзел прысвечаны мітрапаліту Алексію і Сергію Радонежскаму: "У гісторыі Маскоўскай Русі асабліва вядомы і шанаваны два царкоўныя дзеячы – мітрапаліт Алексій і манах Сергій Раданежскі. Гэтыя два абсалютна непадобныя адзін да аднаго чалавекі сталі ўдзельнікамі важнейшых падзей другой палавіны XIV ст.". Разам з гэтым той факт, што Андрэй Рублёў быў праваслаўным манахам, не адзначаецца ("Сусветная гісторыя", 6 кл.). Такім чынам, і ў дадзеным выпадку бачная пэўная тэндэнцыя да секулярызацыі культуры.

Сфера дзейнасці духавенства ў падручніках па сусветнай гісторыі ў прынцыпе не акрэсленая. Аднак да абавязкаў духавенства (але чамусьці гэты абавязак, на думку аўтараў, святары маюць перад дзяржавай) падручнік па сусветнай гісторыі за 7 кл. адносіць малітву. Сітуацыю ратуюць падручнікі па гісторыі Беларусі за 7 кл., дзе знаходзім карэктнае азначэнне: "Галоўным абавязкам святароў і манахаў была служба Богу, малітва. Але яны праяўлялі сябе і ў іншых галінах. Так, нямала духоўных асоб былі выдатнымі мысліцелямі, асветнікамі і дзеячамі культуры свайго часу". Але не хапае персаналій, якія маглі б праілюстраваць гэты тэзіс, акрамя згаданых у падручніку постацей Пятра Скаргі і Яна Марыі

⇒

# (на прыкладзе падручнікаў для 6 – 7 класаў)

Раздзел I. Заходняя Еўропа

*Высветліце, што азначае паняцце «ўтопія» ў сучаснай мове. У якіх словазлучэннях яго можна выкарыстоўваць?*

гуманнае грамадства, у якім пануе справядлівасць. У ім няма багатых і бедных, усе грамадзяне роўныя. Людзі працуюць па шэсць гадзін на дзень, а ўсё неабходнае атрымліваюць бясплатна. Вольны час члены гэтага грамадства аддаюць заняткам навукай, мастацтвам і фізічнай культурай.

Томас Мор выступаў супраць насілля і войнаў. Яму хацелася, каб на зямлі ўсталяваліся мір і дабрабыт, а людзі жылі так, як грамадзяне яго «Утопіі».

З недасканаласцю чалавечага грамадства змагаўся ў сваіх творах галандскі вучоны-гуманіст ***Эразм Ратэрдамскі*** (1469—1536). Сучаснае жыццё ўяўлялася яму кірмашом дурняў. У славутай кнізе «Пахвала дурасці» (выдадзена ў 1511 г.) ён выказаў спадзяванне на з'яўленне гарманічнага і справядлівага чалавека. Вучоны марыў пра ідэальнае грамад-

Востраў Утопія. Ілюстрацыя да кнігі Томаса Мора «Утопія». 1516 г.

Томас Мор

Эразм Ратэрдамскі

Тамаза Кампанела

*На падставе партрэтаў вядомых гуманістаў вызначце, да якіх пластоў грамадства адносяцца гэтыя людзі. Якія з гэтага можна зрабіць высновы?*

Правообладатель Издательский центр БГУ

20

⇐ Бернардоні, Сімяона Полацкага.

Пры гэтым у заданнях для вучняў у падручніку па сусветнай гісторыі для 7 класа прапануюцца наступныя пытанні для параўнання (у каталіцызме, лютэранстве, кальвінізме, англіканстве): 1) Особенности вероучения о спасении души; 2) Роль священников; 3) Верховенство власти; 4) Язык богослужения; 5) Отношение к богатству церкви? Не зусім зразумела, якія высновы можна зрабіць на падставе засвоенага матэрыялу, змешчанага ў падручніках. А таксама чаму тут не прапануецца для параўнання і праваслаўная царква як адна з хрысціянскіх цэркваў?

**Вобраз Папы Рымскага** ў падручніках акрэслены перадусім як вобраз палітычнага дзеяча, які ўплывае на палітычныя працэсы, ініцыюе іх, з'яўляецца іх актыўным удзельнікам. І гэта адпавядае гістарычнай рэчаіснасці. Аднак не толькі палітычная функцыя ўласціва Папам Рымскім. Гэта таксама і кіраўнікі царквы, і святары.

Палітычная функцыя апісваецца наступным чынам: "У 1095 г. папа Урбан II заклікаў хрысціян узяцца за зброю і вызваліць хрысціянскую святыню ад мусульман. Ён абвяшчаў, што трэба дапамагчы і праваслаўным хрысціянам, якія пацярпелі ад "няверных". Гэта прывяло б і да распаўсюджання ўлады пап на новыя краіны. (…) Летам 1099 г. пасля асады яны штурмам захапілі горад. Крыжаносцы ўчынілі страшную разню, забіваючы і мужчын, і жанчын, і старых, і дзяцей". Адзначаючы гэта, падручнікі ў пэўнай ступені спекулююць на паняццях, задаючы пытанні: "Як вы думаеце, якія хрысціянскія запаведзі парушылі крыжаносцы? Ці лічылі яны гэта грахом?"

У падобным ключы чытаем у іншым месцы: "Вяршыняй магутнасці папства стала XIII ст. Папа Рымскі Інакенцій III (1198 – 1216) змог падпарадкаваць сабе манархаў многіх краін Заходняй Еўропы. Ён меў права забараніць вайну або заклікаць да вайны супраць непакорных каралёў або людзей іншага веравызнання".

У § 12 "Познефеадальная грамадства ў Заходняй Еўропе" адзначаецца: "Папа рымскі не мог дыктаваць сваю волю манархам цэнтралізаваных дзяржаў. Цяпер каралёў падтрымлівала большасць насельніцтва дзяржавы, і яны не баяліся пагроз з Рыма. Каралі заставілі свяшчэннаслужыцеляў сваёй краіны выконваць толькі іх волю і законы краіны". Магчыма, ненаўмысна, але ў дадзеным выпадку падручнікі ствараюць вобраз святара як правапарушальніка, які прымусова выпраўляўся.

На фоне апісання палітычнай дзейнасці кіраўнікоў заходняй царквы і жадання палітычнай улады папаў рымскіх падкрэсліваецца неўключэнне праваслаўнай царквы і яе прадстаўнікоў у палітыку. Вядома, што палітычная функцыя кіраўнікоў будзе выражана ў меншай ступені, паколькі яна не мае адзінага кіравання, а складаецца з шэрагу патрыярхатаў і аўтакефальных цэркваў. Адпаведна, ніводзін з патрыярхаў не можа мець такой улады, як Папа Рымскі. Пра гэта, аднак, падручнікі не згадваюць.

Адначасова чытаем: "Мітрапаліт (Алексій) адлучаў ад царквы ворагаў маскоўскага князя, заключыў дагавор з вялікім князем літоўскім ("Сусветная гісторыя", 6 кл.)." і "Сергій (Раданежскі) благаславіў князя Дзмітрыя Іванавіча на барацьбу з Залатой Ардой ("Сусветная гісторыя", 6 кл.)." У Земскім саборы ўдзельнічалі прадстаўнікі вышэйшага духавенства ("Сусветная гісторыя", 7 кл.), "Патриарх Гермоген рассылал грамоты во все концы страны, призывая к борьбе с интервентами (пачатак XVII ст.) ("Сусветная гісторыя", 7 кл.)", адна з прычын выбару М. Раманава на трон – тое, што "его отцом был патриарх Филарет – известный церковный и политический деятель Смутного времени ("Сусветная гісторыя", 7 кл.)".

**Ненавуковыя клішэ ў падручніках.** Да іх можна аднесці матэрыял пра Таварыства Езуса, які ў найбольш яскравых традыцыях расійскай гістарыяграфіі XIX ст. і савецкай гістарыяграфіі апісвае дзейнасць ордэна. Адзначаецца: "Для борьбы с Реформацией была создана специальная организация – Общество Иисуса, более известная как орден иезуитов. Возглавил это общество испанский дворянин Игнасио Лойола (1491? – 1556). Иезуиты получали всестороннюю подготовку. Они были хорошо образованы, необыкновенно ловки и терпеливы. Ради достижения поставленной цели иезуиты имели право на совершение самых тягчайших грехов". Цікава, якімі матэрыяламі карыстаўся аўтар, калі сцвярджаў пра "ради достижения поставленной цели иезуиты имели право на совершение самых тягчайших грехов"? Ці вынікае з гэтых сказаў тое, што езуіты – гэта святары? Ці бачна з гэтага матэрыялу, што езуіты стварылі найлепшую для свайго часу сістэму адукацыі, самі былі найлепшымі выкладчыкамі, многія знакамітыя вучоныя належалі да гэтага ордэна і многія атрымалі адукацыю з езуіцкіх школаў? Відавочна, што не.

Такім чынам, вучань у выпадку засваення матэрыялу ведае агульныя рэчы:

– храналогію гістарычных падзей, ролі, месца і ўдзел у іх розных канфесій;

– духавенства – самая адукаваная частка насельніцтва. Разам са згадкамі пра адукаванасць адсутнічае інфармацыя, як гэтая адукаванасць набывалася, і пра тое, што асноўныя адукацыйныя цэнтры – як пачатковыя, так сярэднія і вышэйшыя ў Еўропе – належалі каталіцкай царкве, а асноўная колькасць іх выкладчыкаў таксама была прадстаўнікамі духавенства. Менавіта ў каталіцкіх школах, дзе выкладалі каталіцкія святары, атрымлівалі сваю адукацыю будучыя прадстаўнікі ідэалогіі Асветніцтва, якім надаецца вялікая ўвага ў падручніках. Аднак на факт шырокага ўдзелу манаскага духавенства ў адукацыі свецкіх звяртаецца ўвага ў падручніку па гісторыі Беларусі;

– іерархічную структуру цэркваў (у выпадку каталіцкай царквы: Папа Рымскі – біскуп – святар);

– засвойвае вобраз Папы Рымскага як прадстаўніка моцнай палітычнай сілы, якая часта ініцыявала і выкарыстоўвала нехрысціянскія (на гэта робіцца асаблівы націск) палітычныя метады: напрыклад, войны.

Адначасова, вучань:

– не ў поўнай меры разумее, што святар мог рэалізавацца ў розных сферах культуры, навукі і палітыкі і быць іх стваральнікам;

– не ведае, што з'яўляецца асноўным зместам працы святара, і якім чынам гэты змест эвалюцыянаваў на працягу гісторыі.

# Прабег амаль 700 км, каб сустрэцца са Святым Айцом

**25 красавіка Вінчэнца Пласіда адправіўся з размешчанага непадалёк ад Венецыі мястэчка Вігонава ў Ватыкан. Ён вырашыў прабегчы 690 км, штурхаючы каляску з 14-гадовай дачкой, якая хварэе на сіндром Карнеліі-дэ-Ланге, каб сустрэцца з Папам Францішкам на прыватнай аўдыенцыі.**

Маршрут ад Вігонава да Рыма праходзіў праз пяць рэгіёнаў і быў падзелены на сямнаццаць этапаў, кожны прыкладна па сорак кіламетраў. Дачка Валянціна суправаджала бацьку падчас першага і апошняга этапаў.

– Мяне вельмі цёпла прымалі, – сказаў Вінчэнца Пласіда. – Пасля кожнага этапу мяне чакалі Сабрына, мая жонка, і Валянціна. Па шляху я сустракаюся з бацькамі, асацыяцыямі, мясцовымі органамі ўлады, таму што мы хочам распаўсюджваць веды пра хваробу і маем патрэбу ў падтрымцы.

Сіндром Карнэліі-дэ-Ланге, як напісана на сайце Рымскай дзіцячай бальніцы Дзіцятка Езуса, з'яўляецца рэдкай групай генетычна абумоўленых прыроджаных сіндромаў (адзін выпадак на 45–60 тысяч нараджэнняў). Сімптомы ўключаюць змяненне выгляду твару, рук і ног, затрымку росту, а таксама разумовую адсталасць.

Адзіночны забег Вінчэнца называўся "Бег для Карнэліі – прабег для навукі". Мэтай ставілася прыцягнуць увагу грамадскасці да хваробы і сабраць сродкі на праекты для дзяцей і моладзі, якія хварэюць на дадзены сіндром.

Важнай зараз з'яўляецца распрацоўка сістэмы лячэння, якая дазволіла б абмежаваць разнастайныя паталагічныя наступствы сіндрому. У цяперашні час у Італіі ад сіндрому Карнелії-дэ-Ланге пакутуе каля двухсот чалавек.

Наша мэта – падтрымаць папярэднія даследаванні магчымасці пераносу ў клінічную плоскасць вынікаў, атрыманых у фундаментальных даследаваннях. Гэтыя даследаванні, праведзеныя італьянскай камандай, закліканыя адказаць на пытанне пра патэнцыйную эфектыўнасць прапанаванай фармакатэрапіі ў дачыненні да распаўсюджаных паводзінавых парушэнняў, якія ўзнікаюць у нашых дзяцей і якія негатыўна ўплываюць на якасць іх жыцця.

Вінчэнца з'яўляецца віцэпрэзідэнтам Нацыянальнай асацыяцыі Карнэлія-дэ-Ланге. Ён актыўна працуе ў сацыяльных сетках. Там паведамляе пра сваю незвычайную акцыю, што праводзіцца "з усмешкай і сэрцам". Гэта выклікае шматлікія выказванні салідарнасці ад старых і новых сяброў.

– Я не чакаў, што так лёгка будзе знайсці гасціннасць і што вестка пра мой прабег будзе распаўсюджвацца такім натуральным чынам… Мне асабліва



падабаецца, што многія дзеці цікавяцца бегам і маімі паведамленнямі, – распавядае Вінчэнца.

Бацька ў дарозе ці, хутчэй, у бегу, з адданасцю, энтузіязмам і любоўю да сваёй дачкі і ўсіх хворых дзяцей паказвае, што быць бацькам – гэта заўсёды вялікая прыгода. Нават калі сутыкаешся з цяжкасцямі і пакутамі. Усё залежыць ад нашага погляду.

*Па матэрыялах pl.aleteia.org*
*пераклад* ***Марыны Ткач***

# Пра некаторыя асаблівасці націску ў формах розных часцін мовы

*(Працяг. Пачатак – у папярэднім нумары)*

**У мінулым нумары “Каталіцкага Весніка”, адказваючы на пытанні нашых чытачоў, мы закранулі праблему пастаноўкі націску ў пэўных формах назоўнікаў і прыметнікаў. Сёння ж крыху пагаворым пра асаблівасці акцэнтуацыі ў словаформах іншых часцін мовы, у прыватнасці, дзеясловаў, дзеепрыметнікаў, дзеепрыслоўяў і прыслоўяў. Тым больш што чуйныя да беларускага слова чытачы “Каталіцкага весніка” задаюць цалкам слушныя пытанні. Так, у прыватнасці, сп. Аляксандр з Віцебска піша: “Як усё ж павінна быць пабеларуску: вы глядзіце навіны ці вы гледзіце навіны? Бо першы варыянт дамінуе, але ці правільны ён?” А сп-ня Наталля з Полацка цікавіцца, сярод іншага, правільным вымаўленнем прыслоўяў спакваля і запар. Паспрабуем разабрацца.**

■ **Юрась Бабіч** – *кандыдат філалагічных навук*

Гаварыце правільна



несяце
ведзяце
ідзяце
везяце
жывяце
кладзяце

### Націск у дзеясловах

У дзеясловах націск можа заставацца на тым самым складзе, што і ва ўтваральнай аснове (*абед – абедаць*), можа пераходзіць на суфікс (*белы – бялець*) або на прыстаўку (*цягнуць – выцягнуць*) і можа размяшчацца на пэўным складзе перад суфіксам, безадносна да таго, на якім складзе ён быў ва ўтваральнай аснове (*глухі – глухнуць*). Але, як паказвае практыка, пастаноўка націску ў інфінітыве не выклікае істотных цяжкасцяў. І наадварот, у пэўных граматычных формах дзеяслова часта допускаюцца памылкі ў пастаноўцы націску. Так, у дзеясловах множнага ліку прошлага часу правільныя будуць формы *ўзялі, далі, аддалі, прынялі*, а не *ўзялі, далі, аддалі, прынялі*. У дзеясловах 2-й асобы множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу абвеснага ладу нарматыўнымі з’яўляюцца толькі варыянты *жывяце* або *жывяцё* (не *жывеце*), *гледзіце* або *гледзіцё* (не *глядзіце*) – і гэта адказ на пытанне сп. Аляксандра, – *ідзяце* або *ідзяцё* (не *ідзеце*), *бераце* або *берацё* (не *бярэце*), *п’яце* або *п’яцё* (не *п’еце*), *несяце* або *несяцё* (не *нясеце*) і г.д.

### Націск у дзеепрыметніках

У большасці выпадкаў націск у дзеепрыметніках залежыць ад таго, рухомы ці нерухомы націск у адпаведных формах дзеяслова. Амаль ва ўсіх дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў першага прадуктыўнага класа, націск падае на той самы склад, што і ў інфінітыве: *адкапаць – адкапаны, заблытаць – заблытаны, намацаць – намацаны, прыдбаць – прыдбаны, намуляць – намуляны* і г.д. У словах *прачытаны* і *напісаны* допускаецца варыянтная пастаноўка націску.

У дзеепрыметніках ад дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа націск падае на склад, які папярэднічае суфіксу: *адратаваць – адратаваны, застрахаваць – застрахаваны, падкаваць – падкаваны, сапсаваць – сапсаваны* і інш. У многіх дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа, націск на каранёвым складзе: *адварыць – адвараны, загаіць – загоены, напаіць – напоены, працусціць – працушчаны, склеіць – склееныі* і г.д. Таксама на каранёвым складзе націск і ў дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў пятага прадуктыўнага класа: *сплесці – сплецены, падсячы – падсечаны, запрэгчы – запрэжаны*. Але: *зберагчы – зберажоны, сцерагчы – сцеражоны*.

У моўнай практыцы апошняга часу фармальна замацаваўся цэлы шэраг акцэнталагічных варыянтаў сярод дзеепрыметнікаў. Так, допускаецца выкарыстанне наступных словаформ: *абгабляваны* і *абгаблёваны, абкантаваны* і *абкантованы, абліцаваны* і *абліцованы, абпілаваны* і *абпілованы, закітаваны* і *закітованы, запрацаваны* і *запрацованы, застрахаваны* і *застрахованы* і інш. Але ва ўсіх прыведзеных выпадках перавагу варта аддаваць першым словаформам у парах як найбольш частотным у камунікацыі і найбольш адпаведным патрабаванням культуры маўлення.

### Націск у дзеепрыслоўях

Дзеепрыслоўі з суфіксамі **-учы** (**-ючы**), **-ачы** (**-ячы**), якія ўтвараюцца ад асноў цяперашняга часу, захоўваюць націск форм цяперашняга часу: *бегаюць – бегаючы, дбаюць – дбаючы, будуюць – будуючы, цыруюць – цыруючы, бачаць – бачачы, сочаць – сочачы* і г.д. Але ў некаторых дзеепрыслоўях месца націску адрозніваецца ад акцэнтных складоў адпаведных дзеясловаў: *глядзяць – гледзячы, ляжаць – лежачы, псуюць – псуючы, вядуць – ведучы, мятуць – метучы, нясуць – несучы* і інш. Некаторыя дзеепрыслоўі з націскам на апошнім складзе, якія ўтвораны ад дзеясловаў другога непрадуктыўнага класа II спражэння, пад уплывам дзеепрыслоўяў з такім жа націскам, якія ўтвораны ад дзеясловаў I спражэння, маюць суфікс **-учы** (**-ючы**): *імчаць – імчучы, спяць – сплючы, вісяць – вісючы, дрыжаць – дрыжучы, звіняць – звінючы* і інш.

У дзеепрыслоўях з суфіксамі **-ўшы** і **-шы** націск такі самы, як і ў формах прошлага часу: *аддаў – аддаўшы, адняў – аднеўшы, падмёў – падмёўшы, пашыў – пашыўшы* і г.д.

### Націск у прыслоўях

Акцэнталагічная сістэма прыслоўяў знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад акцэнталагічнай сістэмы іншых часцін мовы. Большасць прыслоўяў, якія належаць да прадуктыўных тыпаў словаўтварэння, захоўваюць націск, уласцівы таму слову, ад якога ўтварылася адпаведнае прыслоўе. І толькі ў адносна невялікай групе прыслоўяў найбольш старажытнага паходжання месца націску можа быць іншым, чым у лексеме, ад якой паходзіць тое ці іншае прыслоўе. Гэта, напрыклад, прыслоўі *нехаця, аберуч, мімаходзь, досыць, насцеж, нашча, поплеч, попусту, поруч, спакваля, запар* – і гэта адказ на пытанне сп-ні Наталлі, – і некаторыя іншыя.

У прыслоўях, утвораных прэфіксальна-суфіксальным спосабам ад назоўнікаў, націск застаецца пераважна на тым самым месцы, што і ў адпаведнай склонавай форме назоўніка, які ўваходзіць у прыназоўнікава-іменную канструкцыю. Аднак у некаторых прыслоўях націск пераходзіць на прыстаўку: *вобзем, вобземлю, зараз, загрудкі, накрыж, нанач, сослепу, сосмеху* і інш. З націскам на прыстаўцы ўжываюцца таксама прыслоўі кшталту *завідна, зацемна, зажыва, засветла*.

На суфікс націск падае ў прыслоўях, утвораных ад субстантываваных форм поўных якасных прыметнікаў: *ушчыльную, упустую, ухаластую, урассыпную* і інш.

Часта допускаюцца памылкі ў пастаноўцы націску ў прыслоўях, суадносных з формамі роднага склону субстантываваных кароткіх прыметнікаў. Павінна быць: *дачыста, дачырвана, дасыта, дабяла, дачарна, дап’яна, сцішка*. У некаторых прыслоўях прэфіксальна-суфіксальнага ўтварэння месца націску такое самае, як і ў аднакаранёвых лексемах з суфіксам **-о** (**-а**, **-е**): *скоса – коса, памалу – мала, змоладу – молада*. Заўважым, аднак, што ў адпаведных аднакаранёвых прыметніках націск звычайна на канчатку: *касы, малы, малады*.

Націск у адлічэбнікавых прыслоўях у параўнанні з адпаведнымі лічэбнікамі мае пэўныя адрозненні. Так, націск пераходзіць на прыстаўку у лексемах *надвае, натрае*. На прыслоўны суфікс пераходзіць націск у словах *спярша, удвая, утрая*.

У складаных прыслоўях, утвораных шляхам зліцця займенніка з назоўнікам, націск падае на галоўнае слова: *штовечар, штовясну, штолета, штоночы, штодня* і інш. Складаныя прыслоўі, утвораныя шляхам паўтарэння аднолькавых слоў з далучэннем адмоўя або прыназоўніка да другога кампанента, традыцыйна маюць адзін націск. Ён падае або на адмоўе ці прыназоўнік (*дзе-недзе, раз-пораз, сам-насам, перш-наперш, крыж-накрыж*), або на другі кампанент: *калі-нікалі, дзе-нідзе, як-ніяк*.

Такім чынам, мы дастаткова падрабязна разгледзелі пэўныя асаблівасці пастаноўкі націску ў словаформах розных часцін мовы. Спадзяёмся, што гэтая інфармацыя будзе карысная і паспрыяе цікавасці да культуры беларускага слова, паслужыць штуршком да больш якаснага засваення нашай мовы.

## Разважаем над Божым словам

**Запрашаем чытачоў “Каталіцкага Весніка” пачытаць рубрыку “Разважаем над Божым словам”.**

Разважанні над зместам евангельскіх чытанняў кожную нядзелю з’яўляюцца на сайце Catholicnews.by. Аўтар разважанняў – ксёндз-канонік Віктар Місевіч, галоўны рэдактар газеты “Каталіцкі Веснік”.



## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Часлава Садоўская** *(Глыбокае)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Альдона Макоўская** *(Відзы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Галіна Падалевіч** *(Бігосава)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Навалукомль)*, **Мар’ян Шляга** *(Драгічын)*, **Эмілія Буйнова** *(Параф’янава)*, **Карневіч Г.В.** *(Ніўнае)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Часлава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Ганна Блажэвіч** *(Мядзел)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Каптур Т.С.** *(Пагошча)*, **Зенона Алькснін** *(Браслаў)*, **Марыя Шыцько** *(Ажуны)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Пастаvы)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб’е)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб’е)*, **Крысціна Цярэнцьева** *(Браслаў)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Феліцыя Пачкоўская** *(Гірстуны)*, **Вольга і Васіль Галубёнак** *(Гірстуны)*, **Уладзімір Тупека** *(Дзеркаўшчына)*, **Сцепаніда Лупач** *(Заварaты)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*

# Святы апостал Якуб

**25 ліпеня Каталіцкі Касцёл адзначае свята святога апостала Якуба. Запрашаем прыглядзецца да гэтай знакамітай асобы бліжэй.**



### Якуб Старэйшы

*Чаму Якуб – сын Зэбэдэя – быў празваны Старэйшым? Ён быў старэйшы ці больш за іншых апосталаў Хрыста?*

Вядома, што апостал Якуб, празваны Большым, або Старэйшым, быў сынам рыбака Зэбэдэя і Саламеі, братам Яна Багаслова. Падчас рыбнай лоўлі Якуб і яго малодшы брат былі пакліканыя Панам. З гэтага часу браты ўжо ніколі не адыходзілі ад Хрыста. Абодва яны былі залічаныя да ліку дванаццаці апосталаў.

Якуб Старэйшы названы так па часе паклікання, а не па ўзросце або старшынстве ў супольнасці вучняў. Пасля Езус вылучыў яго з асяроддзя іншых, разам з Пятром і Янам, далучаючы менавіта іх з сабой у некаторыя важныя моманты евангельскай гісторыі: уваскрасенне дачкі Яіра, перамяненне не гары Табар, малітвы ў Аліўным садзе.

### Сыны грому

*Чаму менавіта так Госпад называў братоў Зэбэдзеевых? Якая была на тое прычына?*

Якуб і яго брат за свой парывісты тэмперамент былі празваныя Езусам "Баанергес" – Сынамі грому. Наравісты характар братоў у поўнай меры выявіўся, калі аднойчы, ідучы разам з Хрыстом у Ерусалім, адно самаранскае паселішча не прыняло Госпада. І разгневаныя браты – "Сыны грому" – прапанавалі звесці з неба агонь на самаранскае паселішча, каб знішчыць яго: "Бачачы гэта, вучні Ягоныя, Якуб і Ян, сказалі: Госпадзе! Ці хочаш, мы скажам, каб вагонь сышоў з неба і вынішчыў іх, як і Ілля зрабіў?" (Лк. 9:54). А таксама мелі просьбу даць сесці ім у Царстве Нябесным па правы і левы бок ад Езуса ў Валадарстве Нябесным. Пан жа адказаў: не ведаеце, чаго просіце. Ён адкрыў братам таямніцы Валадарства Божага і сказаў, што яны будуць піць Яго келіх – звedaючь бедства і пакуты за імя Хрыстова. Прадказанне Пана адносна абодвух братоў споўнілася з дакладнасцю.

Пасля спаслання Духа Святога на апосталаў у дзень Пяцідзясятніцы апостал Якуб прапаведаваў Евангелле ў розных краінах. Потым вярнуўся ў Ерусалім, усёй сваёй дзейнасцю апраўдаў імя сына Грома, дадзенае яму Панам пры абранні ў апосталы. Нічога не баючыся, адважна і адкрыта Якуб прапаведаваў, што Хрыстус – сапраўдны Месія, Збаўца свету. Ён строга выкрываў і дакараў фарысеяў і кніжнікаў за іх нявер'е і жорсткасць сэрцаў.

### Мучаніцкая смерць апостала

*Як споўнілася прадказанне Хрыста, што Сыны грому будуць піць той самы келіх, што і Ён піў, і хрысціцца тым самым хрышчэннем?*

Бачачы сілу вучэння апостала Якуба, юдэі-нявернікі разгарэліся жудаснай злосцю на хрысціянаў. Яны заахвоцілі цара Ірада, які валодаў тады ўсёй Юдэяй, распачаць ганенні на хрысціянскі Касцёл і забіць Якуба. Па іх парадзе Ірад пачаў пераследаваць хрысціянаў і загадаў адсекчы галаву апосталу Якубу.

Калі Якуб быў асуджаны на смерць, адзін з тых, што паклёпнічаў на яго Ірàду, па імені Ёсія, бачачы мужнасць апостала, зразумеў яго нявінаватасць, спазнаў праўдзівасць боскага вучэння і паверыў у Хрыста. Ёсія мужна вызнаў сябе хрысціянінам, за што разам з Якубам быў асуджаны на смерць. Іх абодвух у адзін час прывялі да месца пакарання. Тады Ёсія звярнуўся да Якуба, молячы дараваць яму грэх, зроблены па няведанні. "Супакой табе", – сказаў Ёсіі апостал, абняўшы і пацалаваўшы. Пасля гэтага абодва яны схілілі галовы пад меч, і ў адзін час памерлі. Гэта здарылася ў 43 ці 44 годзе. Святы апостал Якуб першым з дванаццаці апосталаў прыняў мучаніцкую смерць за Евангелле.

### Святы апякун Іспаніі

*Як апостал Якуб Старэйшы стаў апекуном Іспаніі, калі загінуў мучаніцкай смерцю на Святой Зямлі?*

Паводле падання, пасля мучаніцкай смерці апостала яго парэшткі паклалі ў лодку і пусцілі па моры. Цудоўным чынам гэтая лодка прыплыла ў Іспанію, дзе святы прапаведаваў раней, і была выкінутая на бераг у вусце ракі Улля (там, дзе з'явіцца пазней горад Санцьяга-дэ-Кампастэла). У 813 годзе манах-пустэльнік Пелайё, ідучы за нейкай пуцяводнай зоркай, выявіў каўчэг з парэшткамі, якія заставаліся нятленнымі.

У 896 – 899 гадах кароль Альфонс III выдаў загад, па якім на месцы, дзе знайшлі рэліквіі святога Якуба, павінны былі пабудаваць невялікі касцёл. Само месца назвалі Кампастэла (лац. Campus Stellae – месца, пазначанае зоркай).

Як апостал, што распачаў, паводле падання, падчас свайго служэння далёкае падарожжа са Святой Зямлі ў Іспанію, ён стаў лічыцца апекуном паломнікаў. Да XI стагоддзя паломніцтва ў Санцьяга-дэ-Кампастэла набыло статус другога па значнасці (пасля паломніцтва ў Святую Зямлю).

Святы Якуб лічыцца апекуном Іспаніі, вайскоўцаў і пілігрымаў.

У іканаграфіі святы Якуб паказваецца як старац моцнага целаскладу з доўгай барадой або ва ўборы паломніка. Яго атрыбуты: дарожная торба, кій паломніка, кніга, меч, і асабліва – ракавіна (ракушка), сімвал паломніцтва да Кампастэла.

У канцы XX стагоддзя традыцыя адрадзілася: для таго, каб атрымаць пасведчанне аб пройдзеным "шляху святога Якуба", паломнік павінен прайсці сто ці праехаць на ровары дзвесце кіламетраў. Па прыбыцці ў горад паломнік прад'яўляе ў саборы спецыяльны дакумент "credencial" (пашпарт пілігрыма, які дзейнічае яшчэ з часоў Сярэднявечча) з адзнакамі, зробленымі ў пунктах, якія знаходзяцца на шляху, пасля чаго атрымлівае напісаны на латыні "Сертыфікат Кампастэлы".



### Знакамітасці, якія прайшлі шлях св. Якуба

Шлях св. Якуба – адзін з самых папулярных паломніцкіх маршрутаў у свеце. Штогод сотні тысяч чалавек адпраўляюцца ў падарожжа, каб знайсці Бога і зразумець сябе. Гэта ўнікальная з'ява, сёння Каміна з'яўляецца аб'ектам Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Сотні маршрутаў, якімі можна дайсці да гроба святога Якуба, ахінаюць Еўропу. Самым папулярным сярод паломнікаў ёсць так званы французскі шлях. Менавіта гэтым маршрутам у фільме "Шлях" (2010) ішоў Том Эверы, якога сыграў Марцін Шын.

Некаторыя знакамітасці таксама прайшлі Каміна. Запрашаем пазнаёміцца з імі.

1. **Эндру Макарці**



Макарці вядомы гледачам па фільме "Уікэнд у Берні". Каміна ён прайшоў у 2012 годзе і апісаў яго ў кнізе "Самы доўгі шлях дадому", якая паклала пачатак яго пісьменніцкай кар'еры.

2. **Мэры Макеліс**



Былая прэзідэнт Ірландыі (1997 – 2011). Яна вырушыла ў паломніцтва да гроба св. Якуба падчас свайго другога тэрміну на пасту кіраўніка дзяржавы. Усяго пераадолела 111 км за тыдзень.

3. **Джэна Буш**



Дачка 43-га прэзідэнта ЗША Джорджа Буша, журналістка, вядоўца і пісьменніца. Яна прайшла Каміна ў 2004 годзе ў кампаніі сяброў.

4. **Энтані Куін**



Знакаміты акцёр не збіраўся здзяйсняць паломніцтва. На шлях св. Якуба яго прывяла прафесійная дзейнасць: Куін быў у складзе здымачнай групы фільма пра Каміна.

5. **Святы Францішак Асізскі**



Святы быў у паломніцтве ў Санцьяга два гады, з 1213 па 1215 гг. Адначасова яму ўдалося заснаваць некалькі манастыроў. Маршрут, якім прайшоў святы Францішак, цяпер вядомы як шлях св. Францішка.

6. **Шырлі Маклайн**



Шырлі Маклайн – яшчэ адна асоба, якая прадстаўляе Галівуд і якая прайшла шляхам св. Якуба. Яна распавяла пра свой досвед у кнізе "Шлях. Духоўнае падарожжа". Адной з апошніх яе работ з'яўляецца роля маці Коры Кроўлі ў тэлесерыяле "Абацтва Даўнтан".

7. **Марцін Шын**



Акцёр прайшоў Каміна ў 2009 годзе разам з сынам, таксама акцёрам Эміліа Эстэвесам. Пасля яны таксама сыгралі бацьку і сына ў фільме "Шлях". Эміліа напісаў сцэнарый для гэтага фільма, а таксама стаў яго прадзюсарам і рэжысёрам. Герой Марціна Шына едзе ў Іспанію, каб прывезці дадому цела свайго сына Данііла, які памёр падчас пілігрымкі да гроба св. Якуба. Бацька вырашае скончыць яго справу і адпраўляецца ў пілігрымку з прахам сына.

8. **Ангела Меркель**



Былы канцлер Германіі падчас дзяржаўнага візіту ў Іспанію таксама прайшла 6 км шляхам св. Якуба.

9. **Стывен Хокінг**



У 2008 годзе знакаміты Хокінг прыбыў у Санцьяга, каб атрымаць узнагароду ад мясцовага ўніверсітэта. Падчас візіту ён наведаў горад і пераадолеў кавалак шляху пілігрыма да гроба св. Якуба.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Арфеева***

# Сердце пылающее: четыре причины, чтобы любить Святейшее Сердце Иисуса

**Весь июнь Католическая Церковь посвящает почитанию Святейшего Сердца Иисуса.**

Традиция посвящения себя Святейшему Сердцу Иисуса становится всё менее популярной в последние десятилетия. Для многих это пережиток прошлого. В то время как на самом деле эта традиция не является специфичной для конкретного времени или места. Она всегда актуальна, а в современном мире, возможно, больше, чем когда-либо. Предлагаем рассмотреть хотя бы четыре причины, чтобы любить и почитать Святейшее Сердце Иисуса.

### 1. Это Сердце настоящего Человека

Нам трудно постигнуть глубину этой тайны – Господь принял человеческую плоть. Это центральная Тайна нашей веры. Всевышний Бог, невыразимый Господь, перед Которым даже ангелы в страхе прячут лик… стал Человеком! Он объял нашу слабость и немощь нашу. Он потел. Он истекал кровью. Он плакал. Он трудился, любил и страдал. Он познал парализующий страх, гнев и изнеможение.

В Святейшем Сердце Иисуса мы видим сердце человеческое и сердце Божественное, но более всего сердце плотяное. Святейшее Сердце напоминает нам о том, что Христос охватил не просто какую-то часть нашей человечности, но всю её целиком. Это должно приносить нам утешение: "Ибо мы имеем не такого первосвященника, который не может сострадать нам в немощах наших, но Который, подобно [нам], искушен во всем, кроме греха" (Евр 4, 15).

### 2. Это Сердце пылает любовью

Святейшее Сердце – это горящее сердце. Это сердце охвачено любовью к человечеству. Но не к абстрактному человечеству: Христос любит каждого из нас так, словно это единственная душа, которая была когда-либо создана. Святейшее Сердце является напоминанием и обещанием того, что "так возлюбил Бог мир, что отдал Сына Своего Единородного" и что "не послал Бог Сына Своего в мир, чтобы судить мир, но чтобы мир спасен был чрез Него" (Ин 3, 16-17).

Моменты слабости и неудачи часто приводят нас к унынию и лишают надежды. Нам начинает казаться, что Господь отверг нас и осудил на муки адские. В такие моменты мы должны смотреть на Святейшее Сердце. В нём мы не увидим ни гнева, ни осуждения, а увидим неисчерпаемую любовь нашего Господа и Спасителя, Который любит нас и отдал Себя за нас.

### 3. Это раненное Сердце

Страдания являются частью человеческого существования. Все мы в какой-то момент страдаем. Пресвятое Сердце Иисуса напоминает нам о том, что Бог тоже знает, что значит страдать. Его Святейшее Сердце пронзено и окружено шипами. Это Сердце познало боль предательства, физические страдания и оставленность всеми.

Иногда мы склонны думать, что Христос, на самом деле, не страдает, как мы. Что Он обладал каким-то божественным преимуществом, сделавшим Его страдания другими, менее болезненными. Но это не так. Единственное преимущество, проистекающее из Божественной природы Христа, – это возможность принять на себя больше страдания, чем мог бы вынести любой другой человек. Это страдание было настолько велико, что просто убило бы нас.

Не верьте ни на минуту, что Христос не может понять вашу боль. Святейшее Сердце изранено и пронзено. Его страдание напоминает нам: "ранами Его вы исцелились" (1 Пет 2, 24).



### 4. Это сильное Сердце

Современное общество видит в любви и страдании проявление слабости. Соответственно, мы боимся страдать и боимся любить. Но Святейшее Сердце, пылающее любовью и пронзенное страданием, это не слабое сердце. Это Сердце горячее, Сердце смелое, Сердце торжествующего Царя. Это пронзённое и кровоточащее Сердце? Таково сердце воина: "Господь – Муж брани, Иегова имя Ему" (Исх 15, 3). "Кто сей Царь славы? – Господь крепкий и сильный, Господь, сильный в брани" (Пс 23, 8).

Любовь и страдание не эквивалентны слабости. Сила и мужество Святейшего Сердца позволили Ему выстрадать больше, чем когда-либо было возможно для любого другого человека. Глядя на Святейшее Сердце Иисуса, мы должны помнить, что Сердце Христа – это "крепкая башня: убегает в нее праведник – и безопасен" (Прит 18, 11).

*Перевод*
***Анастасии Орловой***
*для рускатолик.рф с сайта catholicgentleman.net*

# "Слухайце голас Айца!": глыбоцкія адзінаццацікласнікі даверылі свой новы этап жыцця Богу

**30 мая ў парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім падчас святой Імшы маліліся за выпускнікоў. Адзінаццацікласнікі сабраліся ў святыні перад алтаром Пана, каб прасіць благаслаўлення на новы этап у сваім жыцці.**

■ Марына Сінкевіч

Ўрачыстую Імшу ў інтэнцыі выпускнікоў узначаліў пробашч парафіі ксёндз Мікалай Ціхановіч. Ён звярнуўся напачатку да хлопцаў і дзяўчат: "Мы молімся сёння, каб вы ў жыцці не згубіліся і не баяліся рабіць вывады з памылак, якія ў вас будуць. Просім Божай апекі над вамі, каб злы дух не звёў вас і не зламаў жыццё. Але і вы павінны самі трымацца Госпада. Божае блаславенне ідзе з вамі настолькі, наколькі вы давяраеце Госпаду. Ён будзе вас асцерагаць, калі будзеце з Ім і будзеце трымацца Яго".

Падчас казання да выпускнікоў звярнуўся кс. Яўген Шымановіч, які на працягу апошніх гадоў вёў заняткі катэхезы, прынамсі, для часткі моладзі. Святар папярэдзіў, што кожнага ў жыцці чакаюць выпрабаванні, але варта памятаць словы, якія сказаў Езус: "Айцец са Мной!" Вельмі важна старацца слухаць голас Айца.

Таму святар на працягу ўсёй прамовы, падчас якой распавядаў пра свой першапачатковы жыццёвы выбар, прыводзіў асабістыя прыклады, падкрэсліваў адну і тую ж думку: "Слухаць голас Айца!" І даваў парады, як гэта трэба рабіць.

Таксама кс. Яўген звярнуўся да бацькоў з настаўленнямі:

1. Дзяцей трэба адпусціць і яшчэ больш маліцца за іх. Калі дзеці цяжкасці перажываюць, то разам з імі плакаць і суперажываць, калі радасць – радавацца з імі. Проста будзьце побач!
2. Навучыцеся глядзець на сваіх дзяцей вачыма Бога Айца! Бог уклаў у вашых дзяцей шмат дароў, вялікі патэнцыял, вы нават гэтага сабе не ўяўляеце.



Святар прапанаваў бацькам разам памаліцца за дзяцей і благаславіць на наступны этап іх жыцця.

На заканчэнне Імшы пробашч Мікалай акрапіў святой вадой выпускнікоў, удзяліў благаслаўленне і пажадаў: "Што б у жыцці ні сталася, як бы вы ні памыліліся, не ўпалі, калі нават адвернуцца блізкія, родныя, а нават і бацькі, то памятайце, што тут, у Божым храме, вас заўсёды прымуць – з вашымі памылкамі, праблемамі, з вашым светаўспрыманнем. Вас тут заўсёды будуць чакаць, таму што гэта Божы дом. Тут наш Айцец. І ў доме Айца вы заўсёды можаце знайсці ратунак".

Генадзь Бервячонак ад імя бацькоў звярнуўся да выпускнікоў з пажаданнямі, а да святароў і законных сясцёр – са шчырымі словамі ўдзячнасці за малітву і за духоўнае выхаванне дзяцей на працягу школьных гадоў.




## Парафіяда дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі

**Яна адбудзецца 9–10 жніўня ў Дзеркаўшчыне (Глыбоцкі дэканат). Тэма – "Маці Божая, Якая развязвае вузлы людскога жыцця, маліся за нас!"**

**Парафіяда** – гэта фармацыя дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі паводле трыяды: стадыён – тэатр – святыня. Падчас Парафіяды дзеці і моладзь вучацца жывой размове з Богам з дапамогай малітвы, адкрываюць у сабе камандны дух адзінства і ўзаемнай павагі, ствараюць сапраўдную сям'ю Божых дзяцей, імкнуцца не столькі перамагаць, колькі дапамагаць, быць вернымі і адкрытымі на патрэбы іншых.

У праграме: вечаровая адарацыя з працэсіяй, спартыўныяіінтэлектуальныя спаборніцтвы, конкурс ведаў, наведванне святыняў г. Глыбокага, вясёлы вечар і незабыўная праграма.

### Хатняе заданне:

✔ **Візітная картка:** кожная каманда прадстаўляе сваю парафію на тэму ***"Наша парафія падчас пандэміі"*** (не больш за 10 хвілін).

✔ **Конкурс рэлігійнай песні:** адзін спеў (сола, выключна рэлігійны, пажадана Марыйны і на беларускай мове).

Колькасць удзельнікаў: 9 + 1 адказны.

Узрост: 10-18 гадоў.

***Усім удзельнікам Парафіяды абавязкова трэба мець з сабой ружанец, спальнік і добры настрой!***

*Больш падрабязная інфармацыя будзе пазней.*

Па ўсіх пытаннях звяртацца па тэл: **+37529 216-99-82 – кс. Валерый.**

## На ліпень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**3 ліпеня** – **імяніны** адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**5 ліпеня** – **дзень нараджэння** адзначаюць **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Аляксандр Сапель SDS** *(Віцебск)*;

**7 ліпеня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**10 ліпеня** – **імяніны** адзначае **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*;

**14 ліпеня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*;

**15 ліпеня** – **імяніны** адзначаюць **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*, **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Параф'янава)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **кс. Уладзімір Грыгор'еў** *(Іспанія)*;

**16 ліпеня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*;

**17 ліпеня** – **імяніны** адзначае **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*;

**20 ліпеня** – **імяніны** адзначаюць **кс. Чэслаў Курэчка MIC** *(Расіца)*, **кс. Ілля Саўчанка MIC** *(Орша)*;

**21 ліпеня** – **дзень нараджэння** адзначаюць **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*, **кс. Аляксандр Сапель SDS** *(Віцебск)*;

**22 ліпеня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*; **імяніны** адзначае **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*;

**25 ліпеня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*, **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Павел Самсонаў** *(Паставы)*; **імяніны** адзначае **кс. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*;

**28 ліпеня** – **імяніны** адзначаюць **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **а. Віктар Жук SJ** *(Віцебск)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Арфеева***

# Апостал Якуб

**25 ліпеня Каталіцкі Касцёл адзначае свята святога апостала Якуба. У новым тэсце "Каталіцкага Весніка" прапануем Вам праверыць, ці добра Вы знаёмыя з асобаю святога Якуба – аднаго з улюбёных апосталаў Хрыста.**



**1 Чым займаўся Якуб Зэбэдэяў, калі Хрыстос паклікаў яго?**



**А.** Шыў намёты
**Б.** Быў рыбаком
**В.** Працаваў земляробам

**2 Як звалі роднага брата апостала Якуба?**



**А.** Ян
**Б.** Андрэй
**В.** Пётр

**3 Каго пакінуў дома святы Якуб, калі яго паклікаў Збаўца?**



**А.** Жонку і дзяцей
**Б.** Хворую маці
**В.** Бацьку

**4 Як Езус назваў Якуба Зэбэдэя і яго брата?**



**А.** Блізняты
**Б.** Сыны грому
**В.** Выбраныя браты

**5 Апостал Якуб быў адным з трох улюбёных вучняў Хрыста. Як звалі двух іншых?**



**А.** Пётр і Павел
**Б.** Пётр і Ян
**В.** Ян і Марк

**6 Якое паселішча хацелі знішчыць Якуб з Янам нябесным агнём?**



**А.** Селішча Самаранскае
**Б.** Эмаус
**В.** Бэтфагэ

**7 Крыніца, з якой мы ведаем пра пакутніцкую смерць апостала Якуба?**



**А.** З апокрыфаў
**Б.** З Дзеяў Святых Апосталаў
**В.** Няма такой крыніцы

**8 Як звалі маці апостала Якуба? (Яна прасіла, каб яе сыны селі ў Валадарстве праваруч і леваруч Збаўцы)**



**А.** Саламея
**Б.** Вірсавія
**В.** Лія

**9 Дзе знаходзіцца магіла з парэшткамі святога Якуба?**



**А.** Рым (Італія)
**Б.** Ватыкан
**В.** Санцьяга-дэ-Кампастэла (Іспанія)

**10 Хто са знакамітых святых прайшоў шляхам святога Якуба?**



**А.** Святы Дамінік
**Б.** Святы Францішак Асізскі
**В.** Святая Клара Асізская

Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

# Духоўныя семінарыі ў Гродне і Пінску пачынаюць прыём кандыдатаў на 2022/2023 навучальны год




**Старшыня Камісіі па справах фармацыі семінарыстаў і святароў пры ККББ біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB паведамляе аб прыёме кандыдатаў на 2022/2023 навучальны год у вышэйшыя каталіцкія духоўныя семінарыі ў Гродне і Пінску.**

Працэс падрыхтоўкі да святарства паводле новай праграмы Ratio Fundamentalis Institutionis Sacerdotalis ад 8 снежня 2016 года працягваецца сем гадоў, уключаючы ў сябе інтэгральную фармацыю: чалавечую, духоўную, інтэлектуальную і пастырскую.

Семінарыя як вышэйшая навучальная ўстанова Рыма-Каталіцкага Касцёла дае неабходныя веды і развівае якасці, патрэбныя для плённага служэння людзям і Касцёлу ў якасці святара.

У працэсе падрыхтоўкі семінарысты ўзрастаюць у веры, будуючы падмурак духоўнага жыцця праз розныя аскетычныя практыкі, і пазнаюць сябе як чалавека на розных узроўнях. Адначасова вывучаюць філасофскія і тэалагічныя прадметы, а таксама замежныя і класічныя мовы і дапаможныя дысцыпліны.

Акрамя духоўнага фармавання і інтэлектуальнай падрыхтоўкі прадугледжана літургічная практыка ў парафіях. Пасля заканчэння сямігадовай фармацыі кандыдат мае права звяртацца да біскупа з просьбай удзяліць яму сакрамант пасвячэння.

**ПРЫЁМ ДАКУМЕНТАЎ:**

**Рэктарат семінарыі ў Гродне:**

па папярэднім запісе па тэл.: +375 (15) 262 22 22

Тэрмін: 13 чэрвеня – 9 жніўня 2022 г.;

адрас: г. Гродна, вул. Парыжскай Камуны, 1

Дакументы прымае дзяжурны святар.

**Мінска-Магілёўская архідыяцэзія:**

па папярэднім запісе па тэл.: +375 (29) 553 90 76

Тэрмін: 13 чэрвеня – 4 ліпеня і 27 ліпеня – 9 жніўня 2022 г., акрамя нядзель і ўрачыстасцяў.

адрас: г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1 А

Дакументы прымае кс. канонік Дзмітрый Пухальскі.

**Віцебская дыяцэзія:**

па папярэднім запісе па тэл.: +375 (29) 884 54 82

Тэрмін: 6 – 30 чэрвеня і 25 ліпеня – 9 жніўня 2022 г., акрамя нядзель і ўрачыстасцяў.

адрас: Віцебская вобл., г. Глыбокае, вул. Савецкая, 1

Дакументы прымае кс. Мікалай Ціхановіч.

**Рэктарат семінарыі ў Пінску:**

па папярэднім запісе па тэл.: +375 (165) 68 31 57 – семінарыя

+375 (29) 727 31 98 – кс. Андрэй Рылка;

+375 (29) 850 23 01 – кс. Чэслаў Ладыка.

Тэрмін: 10 чэрвеня – 9 жніўня 2022 г., з 10.00 да 17.00, акрамя нядзель і ўрачыстасцяў.

адрас: г. Пінск, вул. Леніна, 16

Дакументы прымае кс. рэктар Андрэй Рылка.

**УСТУПНЫ ЭКЗАМЕН:**

Прыём дакументаў і ўступны экзамен для кандыдатаў з усіх дыяцэзій адбудзецца ў два туры па адрасе: г. Мінск, вул. Кальцова, 153.

**Першы тур:**

20 ліпеня – прыезд і падача дакументаў;

21 ліпеня – экзамен (пачатак – 10.00)

**Другі тур:**

10 жніўня – прыезд і падача дакументаў;

11 жніўня – экзамен (пачатак – 10.00).

На ўступным экзамене кандыдат павінен паказаць свае веды па асноўных тэмах са Святога Пісання, катэхізіса, гісторыі паўсюднага Касцёла, Касцёла ў Беларусі, дыяцэзіі, актуальнага жыцця Каталіцкага Касцёла.

**Кандыдаты ў семінарыю павінны прадставіць наступныя дакументы:**

- уласнаручна напісаная заява аб прыняцці ў семінарыю з матывацыяй свайго рашэння;
- уласнаручна напісаная аўтабіяграфія;
- атэстат аб сярэдняй адукацыі альбо дыплом аб заканчэнні іншай навучальнай установы;
- выпускнікі школ: сертыфікаты трох тэстаў ЦТ (цэнтралізаванага тэставання): беларуская/руская мова; замежная мова; гісторыя Беларусі/сусветная гісторыя/грамадазнаўства;
- пасведчанне аб хросце;
- пасведчанне аб канфірмацыі;
- пасведчанне аб удзеле ў катэхезе;
- характарыстыка ад пробашча;
- характарыстыка ад катэхета;
- медыцынская даведка для паступлення ў ВНУ (форма 1 здр/у-10);
- пашпарт і яго ксеракопія (старонкі 31–33);
- ваенны білет або прыпісное пасведчанне (яго ксеракопія);
- 4 фотаздымкі 3x4 см.

Па ўсіх пытаннях звяртацца да кс. Паўла Эйсманта – куратара 1 курса Вышэйшых духоўных семінарый у Гродне і Пінску – па тэл.: +375 (33) 687 19 53 або да святароў, якія прымаюць дакументы ў кожнай дыяцэзіі.

*Catholic.by*

# 20-годдзе Беларускага Непакалянава адзначаць у Удзеле

**Айцы-францішкане запрашаюць на сустрэчу Рыцараў Беззаганнай і ўсіх, хто хоча прысвяціць сваё жыццё Беззаганнай Панне Марыі на ўзор св. Максімільяна Марыа Кольбэ ў межах святкавання 20-годдзя стварэння Беларускага Непакалянава ў Удзеле, якое пройдзе 24 – 25 чэрвеня.**

**Пятніца, 24 чэрвеня:**

14.00 – рэгістрацыя;
15.00 – 16.00 – Гадзіна Міласэрнасці:
- набажэнства Божага слова, прысвечанага Беззаганнай, Маці Міласэрнасці;
- вяночак да Божай Міласэрнасці;
- канферэнцыя "Рыцарства Беззаганнай св. Максімільяна Марыі Кольбэ".

17.30 – ружанец;
18.00 – святая Імша (магчымасць уступіць у таварыства "Рыцарства Беззаганнай");
19.00 – вячэра;
21.00 – вечар праслаўлення, прысвечаны Беззаганнай;
22.00 – 23.00 – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
- адпачынак (намётавае поле; у жыхароў Удзела (просім узяць з сабою спальнік).

**Субота, 25 чэрвеня:**

7.00 – гадзінкі аб Беззаганным Зачацці НПМ, ютрань;
8.15 – снеданне;
9.15 – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, ружанец, чэрвеньскае набажэнства;
11.00 – святая Імша, Te Deum;
- акт прысвячэння Беззаганнай св. Максімільяна Марыі Кольбэ;
- магчымасць уступіць у таварыства "Рыцарства Беззаганнай".
13.00 – абед

Кантактная інфармацыя:
**+37533 696-57-17** (Viber, WhatsApp, telegram) – **а. Яраслаў Банасяк OFMConv**
paterbanasiak@gmail.com
**+375(2156)3-15-16** (кляштар)



Фота з сайта planetabelarus.by

# Фотафакт. Першая Камунія ў самай маладой парафіі Віцебска

**22 мая пяць дзяўчынак і чатыры хлопчыкі з парафіі Святога Уладзіслава першы раз прынялі Езуса.**



Парафія Святога Уладзіслава ахоплівае новы мікрараён Білева ў Віцебску. Гэта самая маладая парафія ў дыяцэзіі як па гісторыі свайго ўтварэння, так і паводле ўзросту вернікаў, большасць з якіх – людзі маладыя. Мясцовая каталіцкая супольнасць і айцы-езуіты, каторыя апякуюцца парафіяй, пабудавалі касцёл св. Ігнацыя Лаёлы. Новая святыня будзе асвечаная ўжо 9 ліпеня.

***Анатоль Бандарчук-Вошлаў***





# Органный фестиваль Ars Magna Organi пройдет в 12 местах Беларуси



**С 18 июня по 18 сентября в 12 местах Беларуси пройдёт Фестиваль академической органной музыки "Ars Magna Organi" (Великое искусство органа), состоящий из 54 концертов.**

**Фестиваль будет проводиться на:**

- 6 исторических органах (костёлы в Пинске, Медведичах, Гродно (францисканский), Мстибово, Лиде (Фара), Волколате);
- 2 современных органах (Витебская филармония, костёл в Миорах);
- 2 перенесенных б/у органах (в костёлах в Лельчицах и Могилёве);
- 2 электронных органах (Гродно, костёл в Девятовке, костёл в Новополоцке).

В 10 костёлах (Пинск, Медведичи, Мстибово, Гродно (францисканский), Гродно (Девятовка), Лида (Фара), Лельчицы, Волколата, Миоры, Новополоцк) вход для слушателей концертов будет бесплатный – всего 47 бесплатных концертов академической органной музыки.

Ядро фестиваля – 18 бесплатных концертов (в которых примут участие все участники) на органе 1836/1936 года в Пинском Кафедральном костёле. Здесь организаторами фестиваля уже второй раз (после 2019 года) выступают Курия Пинской епархии и Пинский городской исполнительный комитет, а большая часть финансирования – средства, завещанные в 2020 году на фестиваль Юрием Зиссером.

**К пинскому "ядру" фестиваля присоединились ещё 11 мест Беларуси:**

**1. Медведичи** (7 концертов)с периодичностью раз в две недели на протяжении всего лета) на органе 1912 года виленского мастера Петра Войцеховича. Здесь организатором выступил Ляховичский районный исполнительный комитет.

**2. Могилёв** (5 концертов) на перенесенном в 2018 году из Эйндховена органе 1927 года, где спонсором серии концертов выступил Павел Чернов.

**3. Гродно**, францисканский костёл (7 концертов). Здесь инструмент с некоторой натяжкой может считаться самым старым органом Беларуси – 1750 год (дважды капитально перестроенным, но сохранившим много труб и проспект первого органа). Это будут первые за долгое время бесплатные для слушателей концерты в Гродно на протяжении семи четвергов подряд.

**4. Гродно**, костёл на Девятовке, где серия гродненских бесплатных концертов будет продолжена тремя концертами по субботам в сентябре на электронном органе, преимущественно в формате дуэтов.

**5. Мстибово** (2,5 концерта) – отдаленная маленькая деревня, где находится один из самых больших (5-е место) исторических органов Беларуси с 1930-х годов, который, вероятно, впервые выступит в роли концертного инструмента.

**6. Лида**, Фара (2 концерта), исторический орган 1939 года, введённый в строй в прошлом году (см. предыдущие посты о нём), на котором выступят два выпускника Штутгартской высшей школы музыки и театра (с отличием).

**7. Новополоцк** (3 концерта на электронном органе), где выступят выпускники консерваторий Санкт-Петербурга, Москвы и Минска.

**8. Волколата** (1 концерт на приходской праздник) на органе начала XX в., вероятно, Петра Войцеховича (его же орган и в Медведичах), где последний раз академический концерт исполнялся одинадцать лет назад после капитального ремонта инструмента.

**9. Миоры** (1 концерт) на органе, собранном латышскими мастерами в 1980-е годы, на котором не исполнялись концерты около двадцати лет.

**10. Лельчицы** (2 концерта) на перенесенном в 2018 году и пересобранном органе из Варшавы. Это единственный орган в Гомельской области.

**11. Витебская областная филармония** (2 концерта) – презентация серии дисков "Гістарычныя арганы Беларусі".

В рамках фестиваля пройдёт презентация проекта серии дисков "Гістарычныя арганы Беларусі". Первый диск – "Гістарычны арган Пінскага катэдральнага касцёла" – будет презентован на открытии фестиваля 18 июня в Пинске. Второй диск – "Гістарычны арган Лідскага фарнага касцёла" – будет представлен в Лиде 10 сентября. Презентация обоих дисков также пройдет в Витебской областной филармонии.

## Расклад фестываля:

**Пінск, Катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі:**

Арган: Adalbertus Grodzicki, 1836 / Wacław Biernacki (Warszawa – Wilno), 1936; 27/II/P.

**18 чэрвеня**, 15.30 – урачыстае адкрыццё Фестываля; прэзентацыя дыска "Гістарычныя арганы Беларусі. CD1, Пінск"; Калініка Мядзведзева (Мінск);

**19 чэрвеня**, 16.00 – Калініка Мядзведзева (Мінск);

**25 чэрвеня**, 16.00 – прафесар, заслужаны артыст Расіі Даніэль Зарэцкі (Санкт-Пецярбург);

**26 чэрвеня**, 16.00 – Вераніка Багдановіч-Язвінская (Віцебск);

**30 чэрвеня**, 19.30 – Лізавета Марозава (Мінск);

**9 ліпеня**, 16.00 – Ірына Розанава (Санкт-Пецярбург), арган; Васіль Мельнікаў (Любляна), скрыпка;

**16 ліпеня**, 16.00 – заслужаная артыстка Беларусі Ксенія Пагарэлая (Полацк);

**17 ліпеня**, 16.00 – народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў (Мінск);

**23 ліпеня**, 16.00 – Соф'я Ігліцкая (Масква);

**24 ліпеня**, 16.00 – Ганна Горбач (Мінск);

**6 жніўня**, 16.00 – Канстанцін Валастноў (Масква);

**13 жніўня**, 16.00 – Кацярына Іванова (Віцебск);

**20 жніўня**, 16.00 – Іна Шпілеўская (Наваполацк);

**27 жніўня**, 16.00 – Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь, дырыжор – заслужаны артыст Расіі Яўген Бушкоў; Марына Рамейка, арган;

**13 верасня**, 19.30 – Марыя Чарапанава (Масква);

**14 верасня**, 19.30 – Марыя Чарапанава (Масква);

**18 верасня**, 15.30 – урачыстае закрыццё Фестываля. Хор Polifonica. Канцэрт сучаснай сакральнай беларускай музыкі для хора і аргана.

Уваход вольны

**Мядзведзічы, касцёл Святых Апосталаў Пятра і Паўла:**

Арган Piotr Wojciechowicz (Wilno), 1912; 17/II/P.

**26 чэрвеня**, 13:30 – прафесар, заслужаны артыст Расіі Даніэль Зарэцкі (Санкт-Пецярбург)

**10 ліпеня**, 13:30 – Ірына Розанава (Санкт-Пецярбург), арган; Васіль Мельнікаў (Любляна), скрыпка;

**24 ліпеня**, 13:30 – Анастасія Сідзельнікава (Масква);

**7 жніўня**, 13:30 – Канстанцін Валастноў (Масква);

**21 жніўня**, 13:30 – Кацярына Іванова (Віцебск);

**4 верасня**, 13:30 – Ганна Горбач (Мінск);

**18 верасня**, 13:30 – Калініка Мядзведзева (Мінск).

Уваход вольны

**Гродна, касцёл Маці Божай Анёльскай:**

Арган: Мацей Краеўскі, 1750 / Wacław Przybyłowicz (Płock), 1884 / Літоўскія майстры, 1988; 16/II/P.

**23 чэрвеня**, 19:30 – Кацярына Іванова (Віцебск);

**30 чэрвеня**, 19:30 – Калініка Мядзведзева (Мінск);

**7 ліпеня**, 19:30 – Ірына Розанава (Санкт-Пецярбург), арган; Васіль Мельнікаў (Любляна), скрыпка;

**14 ліпеня**, 19:30 – Інна Шпілеўская (Наваполацк);

**21 ліпеня**, 19:30 – Ганна Горбач (Мінск);

**28 ліпеня**, 19:30 – Анастасія Сідзельнікава (Масква);

**4 жніўня**, 19:30 – Канстанцін Валастноў (Масква).

Уваход вольны

**Гродна, касцёл Найсвяцейшага Адкупіцеля:**

Электронны арган Content D6800

**3 верасня**, 20:00 – Калініка Мядзведзева, арган; Анастасія Карпенка, скрыпка (Мінск);

**10 верасня**, 20:00 – Вераніка Багдановіч-Язвінская, арган; Аляксандра Палятаева, флейта (Віцебск);

**17 верасня**, 20:00 – Ганна Горбач (Мінск).

Уваход вольны

**Магілёў, Катэдральны касцёл Унебаўзяцця Дзевы Марыі і Святога Станіслава:**

Арган L. Verschuren, 1928, op. 47; перанесены ў 2018 г.; 20/II/P

**19 чэрвеня**, 16:00 – Лізавета Марозава (Мінск);

**3 ліпеня**, 16:00 – Ірына Розанава (Санкт-Пецярбург), арган; Васіль Мельнікаў (Любляна), скрыпка;

**31 ліпеня**, 16:00 – Соф'я Ігліцкая (Масква);

**21 жніўня**, 16:00 – Іна Шпілеўская (Наваполацк);

**18 верасня**, 16:00 – Марыя Чарапанава (Масква).

**Наваполацк, касцёл Найсвяцейшага Сэрца Езуса:**

Электронны арган Content D5700

**5 ліпеня**, 19:00 – Ірына Розанава (Санкт-Пецярбург), арган; Васіль Мельнікаў (Любляна), скрыпка;

**19 ліпеня**, 19:00 – Інна Шпілеўская (Наваполацк);

**2 жніўня**, 19:00 – Соф'я Ігліцкая (Масква).

Уваход вольны

**Мсцібава, касцёл Св. Яна Хрысціцеля:**

Арган A. Orłowski (Wilno), 1932-1935; 20/II/P.

**24 чэрвеня**, 17:00 і 19:30 – Калініка Мядзведзева (Мінск);

**17 ліпеня**, 11:30 – Ганна Горбач (Мінск).

Уваход вольны

**Ліда, касцёл Узвышэння святога Крыжа (Фара):**

Арган: A. A. Homan St. Jezierski w Warszawie, 1939; 14/II/P.

**2 жніўня**, 19:30 – Канстанцін Валастноў (Масква);

**10 верасня**, 16:00 – прэзентацыя дыска "Гістарычныя арганы Беларусі. CD2, Ліда", Марыя Чарапанава (Масква).

Уваход вольны

**Лельчыцы, касцёл Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і Маці Божай Фацімскай:**

Арган перанесены з Польшчы і складзены з некалькіх інструментаў у 2018 годзе; 14/II/P.

**30 чэрвеня**, 19:00 – Вераніка Багдановіч-Язвінская (Віцебск);

**28 ліпеня**, 19:00 – Кацярына Іванова (Віцебск).

Уваход вольны

**Віцебск, Віцебская абласная філармонія:**

Арган: Glatter-Götz, 2007; 36/II/P

Прэзентацыя праекта аўдыязапісаў "Гістарычныя арганы Беларусі"

**21 чэрвеня**, 19:00 – "CD Арган Пінскага Катэдральнага касцёла" – Калініка Мядзведзева (Мінск);

**18 верасня**, 19:00 – "CD Арган лідскага фарнага касцёла" – Марыя Чарапанава (Масква).

**Мёры, касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі:**

Арган латышскіх майстроў (саматужная вытворчасць), 1980-я; 10/II/P

**25 чэрвеня**, 14:00 – Лізавета Марозава (Мінск).

Уваход вольны

**Ваўкалата, касцёл Св. Яна Хрысціцеля:**

Арган Piotr Wojciechowicz (Wilno) (?), кан. XIX – пач. XX ст.; 10/I/P

**14 жніўня**, 13:00 – Вераніка Багдановіч-Язвінская, арган; Аляксандра Палятаева, флейта (Віцебск).

Уваход вольны



## Хвала Хрысту!



*З нагоды дня нараджэння (15 чэрвеня), а таксама з днём імянінаў (29 чэрвеня) і гадавінай святарскага пасвячэння (25 ліпеня) шчыра віншуем **кс. Паўла Самсонава** і жадаем яму толькі найлепшага: Божых ласкаў і апекі Маці Марыі, добрага здароўя і плёну ў нялёгкай справе – заканчэнні пабудовы будынка нашай святыні! Мы абяцаем яму дапамогу і падтрымку ў гэтым.*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (г. Паставы)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны **ксёндз-дэкан Павел Самсонаў**!*

*Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння! Шмат гадоў Вы служылі вернікам нашай парафіі і сталі для нас сапраўдным духоўным айцом! Няхай у новай, маладой парафіі Езуса Міласэрнага Пан Бог блаславіць Вас на кожным кроку ва ўсіх задуманых справах, а Найсвяцейшая Маці хай атуляе Вас бязмежнай мацярынскай любоўю! Няхай Ваша мудрасць, клопат пра людзей заўсёды будуць прыкладам святарскага жыцця.*

*Ад душы жадаем Вам здароўя, радасных усмешак, міру, дабрабыту! Няхай кожны дзень будзе поўны цяпла і радасці, а ўсе Вашы планы паспяхова рэалізуюцца з Божай дапамогай! Светлых Божых ласкаў Вам і блаславення!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы (аг. Дунілавічы)***

## Хвала Хрысту!

*Паважаны наш **ксёндз-пробашч Павел Самсонаў**!*

*Віншуем Вас з Днём народзінаў! Жадаем Вам шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, моцнага здароўя, душэўнага супакою, цярплівасці! Хай зерне, засеянае Вамі на Божай ніве, прыносіць добры плён, а Езус няхай заўжды валадарыць у Вашым сэрцы!*

***З павагай, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (г. Паставы)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Наш былы **пробашч Алег Півавар** 13 чэрвеня адзначыў імяніны.*

*Паважаны ксёндз Алег!*

*Ад усяго сэрца дасылаем Вам найлепшыя пажаданні: Божага блаславення і шчодрых дароў Святога Духа, шмат Божых ласкаў, штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі! Няхай побач з Вамі заўсёды будзе Ваш Анёл-ахоўнік! Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, плёну ў святарскім нястомным служэнні, моцы і цярплівасці, каб весці людзей да Бога! Няхай здзяйсняюцца ўсе Вашы мары і рэалізуюцца ўсе Вашы планы!*

*Мы ўдзячныя Богу за Вашае пакліканне да душпастырскай паслугі, а Вам – за дабрыню, за чулае сэрца, за клопат пра нас і святыню!*

*Шчасці, Божа, бацькам за сыноў-святароў!*

***З малітвай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святога Айца Піа ў Лёзне***

## Хвала Хрысту!



*9 чэрвеня Дзень нараджэння адзначыў **ксёндз Алег Зямчонак.***

*Шаноўны ксёндз Алег! Шчыра віншуем Вас і дзякуем за адданае служэнне Богу і нам, парафіянам! Просім для Вас Божага блаславення, апекі Панны Марыі, усіх дароў Святога Духа! Няхай шлях Вашага святарскага служэння будзе плённы і шчаслівы!*

***З малітвай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!

*21 чэрвеня наш пробашч айцец Віктар Сініцкі SCJ адзначае 19-ю гадавіну святарскіх пасвячэнняў.*

*Дасылаем з гэтай нагоды для айца Віктара шчырыя віншаванні і найлепшыя пажаданні. Просім, каб Пан Бог адарыў Вас, наш дарагі ойча, патрэбнымі ласкамі: хай будзе моцным здароўе, хай заўсёды будуць з Вамі пастырская мудрасць, цярплівасць і Божы супакой!*

*Дзякуем Вам за нястомнае сведчанне веры, за прыклад даверу да Пана Бога і спадзяванне на Яго ласку! Божай дапамогі Вам і благаслаўлення ва ўсіх справах і пачынаннях!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа (Шаркаўшчына)***

## Хвала Хрысту!

*11 чэрвеня дзень нараджэння адзначыў пробашч катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага **кс. Валерый Марціноўскі.***

*Паважаны ксёндз Валерый!*

*Прыміце нашы шчырыя віншаванні з нагоды дня нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, духоўных сіл, адданасці сваёй справе, дасягнення пастаўленых мэт і спаўнення мар! Няхай Пан Бог дапамагае Вам у выкананні штодзённых абавязкаў, а Дух Святы падказвае шлях для развіцця нашай парафіі! Няхай атрымліваецца жыць, маліцца і працаваць са спакойным сэрцам, напоўненым любоўю і дабрынёй!*

*Таксама хацелі б са старонак "Каталіцкага Весніка" перадаць прывітанне і павіншаваць з днём нараджэння (9 чэрвеня) былога вікарыя нашай парафіі **кс. Алега Зямчонка.***

*Жадаем Вам, ксёндз Алег, усяго найлепшага! Поспехаў у служэнні, еднасці з Панам Богам, мудрасці, непахіснай веры, радасці і любові! Памятаем пра Вас у малітвах!*

***З вялікай удзячнасцю дарагім святарам, вернікі і сёстры законныя катэдральнай парафіі г. Віцебска***

## Удзячнасць



*Вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах выказваюць шчырую ўдзячнасць былому пробашчу кс. Анджэю Бульчаку, які быў адным з заснавальнікаў гэтай парафіі і самога касцёла і вельмі шмат зрабіў для сваіх парафіян як ксёндз і чалавек!*

*Мы памятаем пра Вас у малітве!*

## Віншуем!

*17 чэрвеня **ксёндз Кшыштаф Сілкоўкі** адзначыў 40-ю гадавіну святарскага пасвячэння, а **ксёндз Чэслаў Куцмеж** – 35-ю.*

*Шаноўныя кс. Кшыштаф і кс. Чэслаў! Мы, вернікі парафіі св. Антонія Падуанскага з Паставаў, шчыра дзякуем Вам за гады ахвярнага служэння Богу і людзям у Беларусі, за разуменне і вывучэнне нашай мовы, культуры, менталітэту!*

*Няхай Пан Бог узнагародзіць Вас за цяжкую працу ў нашай парафіі, за абвяшчэнне Божага слова, за мудрыя казанні, за Вашы добрыя сэрцы і Вашае цярпенне!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў! Мы молімся, каб Божая міласэрнасць спадарожнічала Вам праз усё далейшае жыццё і каб Вы як мага даўжэй былі з намі!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага ў Паставах***

## Хвала Хрысту!

*2 ліпеня **сястра-эўхарыстка Ірэна Сапун** адзначае пяцідзесяцігоддзе прыняцця вечных шлюбаў.*

*Нарадзілася Ірэна 4 лістапада 1952 года ў вёсцы Інава на Браслаўшчыне. Пазней сям'я пераехала бліжэй да раённага цэнтра – у Краснасельцы, і дзяўчына ў 1970 годзе закончыла Браслаўскую сярэднюю школу імя Жданава.*

*Дар паклікання – гэта Божая справа. Аднак Пан Бог вядзе да гэтай мэты праз людзей. Важную ролю ў пакліканні да кансакраванага жыцця адыграў ксёндз Чэслаў Вільчынскі – тагачасны новы пробашч у Браславе. Ён запрасіў дзяўчыну да ўдзелу ў Эўхарыстычнай працэсіі, да адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту падчас саракагадзіннага набажэнства ў касцёле.*

*Там, каля алтара, яна сустрэла жанчын, твары якіх свяціліся радасцю і дабрынёй. Даведалася, што гэта законніцы з Кангрэгацыі сясцёр-служэбніц Езуса ў Эўхарыстыі. Ірэна пацікавілася, хто яны такія, чым займаюцца, у чым сэнс іхняга жыцця. А сустрэўшы людзей, у сэрцах каторых гарэў агонь да спраў Божых, яна таксама вырашыла пасвяціць сваё жыццё справам Госпада. Пасля заканчэння школы ў 1970 годзе дзяўчына прыйшла ў кляштар.*

*Праз некаторы час Ірэна паехала ў Вільнюс працягваць законную фармацыю і атрымліваць прафесію. Закончыла Вільнюскае медыцынскае вучылішча са спецыялізацыяй "Медыцынская сястра шырокага профілю" і некалькі гадоў працавала па спецыяльнасці. Таксама закончыла тэалагічны каледж пры Каўнаскай духоўнай семінарыі. 2 ліпеня 1972 года сястра Ірэна склала вечныя шлюбы.*

*З 2014 года сястра Ірэна Сапун служыць Богу і людзям у парафіі Божага Провіду ў Слабодцы Браслаўскага раёна як закрыстыянка і катэхетка. Нашы парафіяне вельмі ўдзячныя сястры Ірэне за шматгадовую працу, за дабрыню і ветлівасць. Наш касцёл заўсёды прыбраны, жывыя кветкі вырошчваюць сёстры ў кляштары. Шмат часу ўдзяляе сястра Ірэна катэхізацыі дзяцей – рыхтуе іх да Першай Камуніі, да канфірмацыі. Дом сясцёр-эўхарыстак заўсёды адкрыты для дзяцей і дарослых, для кожнага з нас у розных патрэбах. У кляштары штодня сёстры моляцца, і слабаджане ўсім сэрцам удзячныя сёстрам-эўхарысткам за малітву, за добрыя справы.*

*Паважаная сястра Ірэна! З юбілеем Вас!*

*Пяцьдзясят гадоў служэння Богу!*
*Небам быў прадвызначаны лёс,*
*І дзяўчына рушыла ў дарогу,*
*Поўная даверу да нябёс.*

*Пяцьдзясят гадоў служэння людзям,*
*Побач крочыўшым сцяжынкаю жыцця.*
*Працы шмат перарабілі рукі,*
*Аб збаўленні клапацілася душа.*

*Прагучыць малітва ў касцёле*
*І адзначыць шлюбаў юбілей.*
*Дай Вам Бог спагады і здароўя,*
*На душы хай будзе супакой!*

***Па даручэнні парафіян, Л.І. Арсюкова***

Не зруйнуй сваё багацце.
Бо загубіш – не збярэш.
Не ляці за птушкай шчасця,
Шчасце – ў нас саміх найперш!

Шчасце ў тым, што маем сёння.
Заўтра – можа быць падман.
Шчасце – мецъ сяброў надзейных,
Хоць знаёмых акіян.

Шчасце ў тым, што сонца ясна
Асвятляе гэты дзень.
І прамень надзей не згасне,
Заіскрыцца ён ярчэй!

Шчасце – верыць, што не будзе
Вечна болю і трывог.
І калі асудзяць людзі,
То табе прабачыць Бог.

Не руйнуй сваё багацце,
А служы і раздавай!
Па жыцці ідзі ты зверай,
Скарб духоўны здабывай!

***Юлія Голубева-Кісялевіч***

